
У Навакорніне аднак вучаць! → 3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714


Вершы Андрэя Сцепанюка → 9

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 37 (3357) Год LXV

Беласток, 13 верасня 2020 г.

Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


# У беларусаў ёсць толькі дарога наперад!

Не памятаю, каб калі раней так эмацыйна і шматлюдна віталі ў Беластоку беларускага палітыка. Мова пра візіт Паўла Латушкі 5 верасня г.г. На сустрэчу ў Інстытут педагогікі, што па вуліцы Сварковай, тлумна сцягнула новая беларуская эміграцыя са сцягамі, прыйшлі прадстаўнікі нашай меншасці ды многія жыхары горада. Амаль усе даступныя месцы ў прасторнай актавай зале былі заняты. Яшчэ адно, камернае і вельмі шчырае спатканне арганізавала Радыё Рацыя, дзе апрача журналістаў прысутнічалі мясцовыя беларусы. У кожнага былі свае думкі і пытанні наконт таго, што адбываецца ў Мінску. Іншыя хацелі пачуць голас героя, які з'явіўся проста з барыкад рэвалюцыі.

— Ці стане ён прэзідэнтам Беларусі? — дапытвала мяне знаёмая. — Ён такі мудры, прыстойны мужчына!

Менавіта такія чуткі даўно ўжо кружылі паміж Гайнаўкай, Бельскам і Беластокам. Людзі добра памяталі былога амбасадара, які як мала хто з яго калег-дыпламатаў наблізіўся да нацменаў і нёс вялікую дапамогу (некаторым) беларускім арганізацыям. Ды ўсім без разліку ён спадабаўся за беларускую мову і прамовы, якія прыгожа завяршаў вершам Віктара Шведа. У гэты раз было няйначай. Павел Латушка развітаўся з аўдыторыяй у Педагагічным інстытуце менавіта вершам Віктара Шведа: *Я — беларус і гэтым ганаруся. Усім душу сваю магу адкрыць: Ніколі і нідзе не адракуся, што беларусам жыў і буду жыць!*

Ужо ў час беластоцкіх сустрэч пад знакам сумневу стала вяртанне Латушкі ў Беларусь. Яму, як члену прэзідыума Каардынацыйнай рады, пагражалі турмой.

Тым не менш цікава было пачуць яго непрыхарошаны расповед пра сітуацыю ў сённяшняй Беларусі.







**За што разагналі Купалаўскі тэатр?**

— Ціск пачаўся ўжо месяц да выбараў, — апавядае Павел Латушка, да нядаўна дырэктар Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы. — Мы былі адключаны ад інфармацыі ў дзяржаўных СМІ, не паказалі інтэрв'ю са мной на тэлебачанні, кожным спосабам стараліся мінімізаваць наш голас. У Міністэрстве культуры, куды паклікалі ўсіх дырэктараў тэатраў, быў дадзены загад, каб цалкам пазбыцца сюжэтаў на тэму свабоды. У выпадку, калі нехта запратэстуе, дырэктар павінен выклікаць міліцыю. І я тады ўявіў сабе, як гэта будзе выглядаць, калі да тэатра Янкі Купалы, сімвала нашай нацыянальнай культуры, я выклікаю міліцыю! Даруйце, такога я ўжо не мог сабе ўявіць, — працягвае Латушка.

Чорны сцэнарый пачаў здзяйсняцца пасля выбараў, калі ў час пратэстаў быў затрыманы і арыштаваны адзін з галоўных акцёраў Павел Харланчук. Таксама многія з родных і знаёмых акцёраў былі затрыманы на вуліцы і жорстка збітыя сілавікамі. У знак пратэсту супраць агрэсіі акцёры запісалі відэа-пратэст і паставілі ў сацсетках.

— Мы з прагр목ным дырэктарам былі вымушаны адрэагаваць на ўсё гэта. Мы зрабілі сход і аднагалосна прагаласавалі, што калі нехта з калектыву будзе рэпрэсаваны, тады з тэатра сыходзяць усе. Тады я сказаў: «Вы купалаўцы і я купалавец, мы будзем разам і калі што разам зыдзем з тэатра». Акцёры не патрабавалі такога ад мяне, яны ведалі што я пайду першы пад абстрэл. Гэта было непазбежна. Ужо ў пятніцу вечарам мяне выклікалі ў кабінет намесніка міністра культуры. Ён мяне вельмі прасіў, каб мы ўжо скончылі з пратэстамі, інакш будзе спынена дзейнасць тэатра. У панядзелак зноў пазванілі з міністэрства і загадалі зняць бел-чырвона-белы сцяг з будынка. Замест таго акцёры сталі дзяжурыць, каб ніхто не зняў сцяга.

Вечарам па тэлефоне Паўла Латушку без названня прычын рашэннем прэм'ерміністра звольнілі з пасады дырэктара.

— У знак салідарнасці звольніліся і нашы акцёры. Пасля, я даведаўся, — працягвае свой аповед Латушка, — што загад, каб мяне звольніць, прыйшоў ад Аляксандра Лукашэнкі.

* * *

**Ужо абвінавацілі і начапілі ярлык**

Павел Латушка — член прэзідыума Каардынацыйнай рады, якая ўзнікла пасля фальсіфікацыі выбараў. Галоўная яе мэта — знайсці развязку для глыбокага крызісу, які зараз у Беларусі. У раду ўвайшлі прадстаўнікі розных груп грамадства і інстытуцый.

— Але многія ўжо пакінулі раду, — адзначае. — Не то, што людзі памянялі погляды. Яны баяліся за свае бізнесы, пасады. Усе ведаюць як гэта можа скончыцца. Як бы не было — рада дзейнічае. Многа залежыць ад мірных маршаў, якія паказваюць усяму свету нязгоду грамадства для фальсіфікацыі выбараў, збівання мірных людзей, арышты, гвалт. І гэта не пераломны момант, так напраўду пералом ужо адбыўся ў сэрцах і душах людзей.

Павел Латушка адзначае:

— Я ніколі не бачыў такой Беларусі, так гатовай за кожнага змагацца, маніфеставаць, падтрымліваць адзін аднаго. Мы ўжо народ. І паваротнай дарогі для беларускага грамадства не існуе. Змянілася нешта найважнейшае ў сэрцах. Ёсць толькі дарога наперад.

Сам пра сябе сказаў такое, быццам каментаваў падзеі будучага тыдня:

— Улады ў Беларусі цяпер кажуць пра мяне, што зрабіў усё, каб зліквідаваць нацыянальны тэатр. Гэта мяне баліць, але я гатовы зносіць усякія паклёпы. Крыўдна за словы прэм'ер-міністра. Толькі ён забыўся, што сам ніколі не быў у Нацыянальным тэатры. За паўтара года маёй працы ён ні разу не пацікавіўся, якія ў нас спектаклі, хто іграе на сцэне, аднак яму лёгка рабіць ацэнку. Ён адзначыў што дапамагае нашаму тэатру — а як можа быць інакш! Мы нацыянальны тэатр, установа-сімвал. Скажу яшчэ, што мы як тэатр найбольш з усіх зараблялі для бюджэту дзяржавы. У апошнім часе зарабілі 30 працэнтаў больш, чым гэта было раней. У нас былі выступленні за мяжой — у Польшчы, Літве, Расіі, Францыі. Усё гэта паказвае, якая дзяржава Беларусь. Іх не цікавіць культура. Яны не разумеюць, што без культуры і адукацыі не можа існаваць ніводная дзяржава, ніводзін край. І трэба ведаць, што якраз у гэтым годзе мы адзначаем сто гадоў існавання Купалаўскага тэатра. Мы зробім усё, каб гэта адзначыць, — кажа Павел Латушка, — і зладзім юбілей годна, без хамства і палітычнага ціску.

(працяг будзе)

Тэкст і фота Ганны **КАНДРАЦЮК**





# Народ і карнікі

Мінуў месяц масавых мірных выступленняў грамадзян Беларусі супраць фальсіфікацыі выбараў, узурпацыі ўлады, жорсткага задушэння мірных пратэстаў са смяротнымі ахвярамі, сотнямі пакалечаных, тысячамі збітых і зняволеных. Пакуль ніякіх станоўчых зрухаў па змене ўлады, ці нават пачатку нейкага перамоўнага працэсу не адбылося. Бок, які цяпер не ашуканствам і прапагандай, а выключна гвалтам і сілай утрымлівае ўладу, проста няздольны на перамовы. Пакуль не праглядваецца ніякіх станоўчых сцэнарыяў мірнага транзіту ўлады і „над краінай хмары, хмары...". Але беларускі народ не здаецца, выяўляе цуды самаарганізацыі і па-сапраўднаму прагне волі, як бы пафасна гэта не гучала. Людзі ў розных гарадах краіны па-ранейшаму выходзяць на акцыі мірнага пратэсту, нягледзячы на пагрозы і рэпрэсіі.

У цяперашніх падзеях, што адбываюцца ў Беларусі, вельмі шмат сімвалізму і розных алегорый. Нават прозвішчы галоўнага начальніка дзяржаўнай міліцыі Караева і новага „губернатара" гарадзенскай вобласці Караніка надзвычай трапна сугучныя іх карным дзеянням і памкненням. У гэтых, і многіх іншых дзяржаўных прызначэнцаў хунты няма ў лексіцы такіх слоў і словазлучэнняў як „паразуменне з народам", „дыялог з грамадствам", „пошук шляху замірэння". Ні на які палітычны кампраміс, ні на якія перамовы яны нават не збіраюцца ісці. У іх толькі адзін кірунак — палохаць, душыць, біць, „закатваць у асфальт". Яны гатовыя выканаць кожны злачынны загад кіраўніцтва. Злавесную абрэвіятуру ОМОН (отряд милиции особого назначения) нават не хочацца перакладаць на беларускую мову. Пасля змены рэжыму гэтая структура павінна быць поўнасцю распушчана, а замест яе створана новая паліцыя і новыя, сапраўды праваахоўныя, а не карныя органы. А ОМОН стане, ды і ўжо стаў, у адзін шэраг з савецкім НКВД і гітлераўскім Schutzstaffeln (SS). Яго рэпутацыю і сутнасць ужо не зменіць нічога.

Характэрная яшчэ адна канкрэтная гісторыя, што здарылася не так даўно ў Гародні. Дзве „амонаўкі" жорстка збілі жанчыну, якой за 50 гадоў, фактычна па ўзросце сваю маці. Калі жанчыну душылі, яна ўкусіла за руку адну з „амонавак". Цяпер на гэтую пацярпелую ад гвалту жанчыну завялі крымінальную справу і ёй пагражае турэмны тэрмін. А калі ахвяра запыталася ў душыцелек іхныя прозвішчы, яны весела адказалі — Насця Лукашэнка і Маша Лукашэнка. Сапраўдныя прозвішчы гэтых маладых і сімпатычных супрацоўніц карнага атрада гарадзенцы ведаюць, ведаюць іх і ў твар — маладыя жанчыны шмат дзе „засвяціліся". Але яны сапраўды дзеці ці ўнучкі Лукашэнкі, дзеці хлусні, крывадушнасці і подласці, дзеці чалавеканенавісніцкай прапаганды.

Беларускі народ, які зараз змагаецца за вызваленне краіны ад чорнай злачыннай навалы, павінен усведамляць, што барацьба ідзе не проста з нейкім унутраным рэжымам узурпатара. Змаганне ідзе адначасна супраць крамлёўскага філіяла і знешняй маскоўскай агрэсіі. Гэта Пуцін выявіў і аказаў поўную падтрымку свайму саюзніку-васалу, гэта ён пагражае нашаму народу сваім войскам. Гэта кіраўнік міністэрства замежных спраў Расеі Лаўроў зусім нядаўна заявіў, што расейцы і беларусы — гэта адзін народ, а ніякай беларускай мовы не існуе. Яшчэ раз падкрэслю, гэта заявіў не нейкі невядомы расейскі чарнасоценец, а кіраўнік МЗС! У Маскве даўно распрацаваная канцэпцыя генацыду і этнацыду беларускага народа. Разумееце — нашай беларускай мовы не існуе, а раз няма такой мовы, то значыць няма і такога народа! Мы для іх не існуем, а калі існуем — значыць мы для іх ворагі. А паводле даўняй крамлёўскай дактрыны — „если враг не сдаётся — его уничтожают". Таму філіял і яго маскоўскія кіраўнікі гатовыя на ўсё. Ажно да поўнай „замены" народу, які жыве на гэтай зямлі. На стварэнне гэткай „Кітарусіі", дзе будзе кіраваць расейская наменклатура, а на заводах і фабрыках будуць працаваць завезеныя кітайскія рабочыя, фактычныя рабы. Але праз чвэрць стагоддзя гэтай палітыкі раптам выявілася, што беларускі народ не згодзен з гэтым сатанінскім планам. І таму вырашальнае слова павінна застацца за беларускім народам.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Колькі яшчэ?

Падарожжа ў Італію, якое здзейсніла мая знаёмая пасля доўгіх гадоў ашчаджання, было вялікім расчараваннем. Яе расчаравала славутая італьянская кава, пра якую яна лепш за ўсё ўяўляла перад выездам з краіны. Такія ўявы якія ёсць у кожнага з нас, і не толькі пра італьянскую каву, але і пра многае іншае — уявы, зафіксаваныя культурнымі ўзорамі, кагнітыўнымі скажэннямі некалькіх пакаленняў ці нават узорамі, сфармаванымі СМІ. Вось беларус — цярплівы чалавек. Паляк — гераічны халерык... Да нядаўняга часу ўрадавая і ультракаталіцкая прапаганда з колаў Ordo Iuris палохала палякаў гендэрнай культурай. Сёння іх розум заблытаны крымінальнай экспансіяй фемінісцкіх і ЛГБТ-рухаў. У той жа час размоўнае разуменне паняццяў пол, фемінізм і ЛГБТ павярхоўнае ды зводзіцца да прымітыўных кагнітыўных мадэлей. Ці гэта не дурная прапагандысцкая паталогія? Але вернемся да італьянскай кавы... Незалежна ад таго, ці замаўляла яе мая сяброўка ў рымскіх кавярнях ці ў рэстаранах гатэляў, яе смак і колер не адрозніваліся ад стандартнай памутнелай вадкасці з вулічных аўтаматаў. Яе расчараванне было бязмежным. Аднак, будучы разважлівай, яна спыталася ў сябе: Як уявы людзей суадносяцца з рэальнасцю? Ну, у іх усё ў парадку. Чалавек, які стаіць перад выбарам паміж існаваннем ва ўяўным свеце і рэальным светам, зразумела, уладзіць першы, бо ён псіхічна бліжэй да яго, неяк больш зразумелы і прыручаны. Цікава, што ён ужо раскарачыўся ў ім так, быццам іншага, рэальнага свету наогул не існавала. Дык ці сапраўды бязлюдны? Сапраўды, асаблівым чынам ён становіцца ўсё больш і больш абязлюдзелым, бо адштурхоўвае ад сябе шакіруючымі тупымі фактамі. Яны выклікаюць вялікую кагнітыўную блытаніну ў свядомасці людзей. Аказваецца, нічога, што ёсць, гэта не тое, што мы сабе ўяўлялі. Добрае, прыстойнае, высакароднае — гэта не ўсё такое; сусветны мір — гэта фактычна стан прыпыненай вайны, чалавечая салідарнасць — дакладна разлічаны інтарэс. Тым не менш, кожны чалавек гатовы і без ваганняў прысвоіць сабе такія станоўчыя катэгорыі, як: «добры, прыстойны, спагадлівы, працавіты». Ну, хутчэй так! Але калі гэта так, чаму вакол нас столькі зла? Чаму наш свет у такім бязладдзі — ці не таму, што мы адварочваемся ад рэальнасці? Напрыклад, вайна — страшная рэч, але ў той жа час яна рухавік нашай цывілізацыі. Мы ўзалежніліся ад яе і хаваемся ў ёй, як недаразвітая лялечка ў кокане. Акрамя гэтага, мы не змаглі б выжыць, як заўчасна выкляваўшаяся з ахоўнага кокана лялечка. У рэшце рэшт, наша цывілізацыя, рухаючася рухавікамі вайны, з'яўляецца толькі ілюзіяй нясучай у сабе ілюзорнае пачуццё бяспекі. У 2000 г. ва ўзброеных канфліктах па ўсім свеце загінула 310 000 чалавек, яшчэ 520 000 загінулі ў выніку іншых гвалтоўных злачынстваў. У тым жа годзе ў аўтамабільных аварыях загінулі 1 260 000 чалавек, а 815 000 скончылі жыццё самагубствам. Усяго ў 2000 годзе загінула 56 мільёнаў чалавек, большасць — ад хвароб альбо прыродных уздзеянняў, але значная частка астатніх з-за немагчымасці прыстасавацца да сучаснай цывілізацыі. З гэтай агульнай колькасці загінулых толькі 1,5 працэнта непасрэдныя ахвяры вайны. Таму, калі мы заклікаем, справядліва, да міру ва ўсім свеце, не будзем забываць, што не час вайны, а час міру выклікае найбольш смярцей. Таму не дзіўна, што гэтая статыстыка выклікае ў нас унутраны супраціў. Няма нічога больш жорсткага, чым страчаныя ілюзіі. Таму падсвядомая эміграцыя чалавека ў лепшы свет зману і мрой мае масавы характар. Свет праўды абязлюджваецца, свет ілюзій і мрой становіцца ўсё больш населеным. Калі б мы паставілі ўсіх людзей на шалі, а нас каля сямі мільярдаў, наша агульная маса дасягне 300 мільёнаў тон. Колькі гэтай масы складала б чалавечыя сумленнасць, мудрасць, альтруізм? Нічога. Літаральна нуль. Аднак кожны з нас прысвойвае сваёй асобе званне добрага ці прыстойнага чалавека. Так, у свеце ўяўлення. У рэальным свеце трэба прыкласці вялікія намаганні, каб жаданні сталі практыкай. Тым больш што гэта т.зв. прыстойны чалавек, з пункту гледжання бухгалтэрыі, неэканамічны. У індывідуальнай і спецыяльнай перспектывах выдаткі на рэалізацыю праграмы «быць годным чалавекам», на жаль, маюць адмоўнае сальда. Таму мы маем больш дэкларатыўных лозунгаў, чым эфектыўных дзеянняў. Толькі з пункту гледжання чалавечай супольнасці альтруістычныя адносіны балансуюцца ў станоўчы бок. Але гэта патрабуе часу. Колькі яшчэ?

**Міраслаў ГРЫКА**


Гародня, фота racyja.com

* * *

Дзе мая Айчына —
маё сэрца б'е.
Розумам і чынам
ратую яе.
На пагібель чэрцям,
сатаны сынкам,
хай бы і памерці,
святло несці нам.
Кроў плыве па белі,
душаць волі дых.
У масках азвярэлыя
разбіваюць шыхт.
Анёле над намі,
воіне нябёс...
Ахіні крыламі
наш абраны лёс.

*Міра ЛУКША*


svaboda.org (RFE/RL)

# Непублічная пачатковая школа ў Навакорніне вучыць!

**Непублічная пачатковая школа ў Навакорніне, якую з дапамогай бацькоў арганізавала Грамадска-асветнае аб'яднанне дапамогі пакрыўджаным і інвалідам «Адукатар» з Ломжы, 1 верасня распачала сваю дзейнасць. Аднак войт Гайнаўскай гміны Люцына Смактуновіч не перадала асветнай субвенцыі аб'яднанню «Адукатар» на верасень, прызначаную Міністэрствам адукацыі для вучняў, якія сталі вучыцца ў непублічнай школе ў Навакорніне. Гмінная ўправа ў Гайнаўцы да канца жніўня вяла дзейнасць школы ў Навакорніне і надалей вядзе школу ў Дубінах. Настаўнікі згадзіліся працаваць у школе ў Навакорніне ў верасні бясплатна, на прынцыпах валантарыяту, хаця са школьнага будынка ў Навакорніне ў час канікулаў былі забраны новыя камп'ютары і навейшае абсталяванне.**



Дырэктар школы Анна Красько



У гімнастычнай зале спаткаліся вучні, дашкольнікі, бацькі і настаўнікі

Вясной гэтага года Рада Гайнаўскай гміны прыняла пастанову аб закрыцці Пачатковай школы ў Навакорніне з канцом жніўня. Адразу пачаліся намаганні бацькоў, каб у школьным будынку наладзіць дзейнасць непублічнай школы. Іх стараннем спадарожнічалі розныя цяжкасці. Вялікім штуршком для бацькоў была інфармацыя, што ў Гміннай управе вядуцца размовы наконт продажы школьнага будынка з участкам замежнай суполцы, якая мела б у ім арганізаваць вытворчасць камбікармоў. З падтрымкай мясцовага насельніцтва ўдалося сабраць яшчэ большую колькасць дзетак у дашкольным і школьным узросце, якіх бацькі рашылі пасылаць іх у непублічную школу ў Навакорніне. За яе стварэнне сталі хадайнічаць найбольш актыўныя жыхары вёскі, якія не хацелі дапусціць, каб у школьным будынку пачалася гаспадарчая дзейнасць. Яшчэ раней звярнуліся яны да аб'яднання «Адукатар» з просьбай арганізаваць дзейнасць непублічнай пачатковай школы на такіх прынцыпах, на якіх працуе школа ў Арэшкаве. У час нечарговага пасяджэння Рады Гміны Гайнаўка 29 ліпеня «Адукатару» была дадзена згода на арганізаванне непублічнай школы ў будынку былой публічнай школы ў Навакорніне.

На пасаду дырэктара школы ў Навакорніне аб'яднанне «Адукатар» прызначыла Анну Красько. 1 верасня раніцай дырэктар Анна Красько паехала ў Гмінную ўправу ў Гайнаўцы па ключы да школы. У дзевяць гадзін у гімнастычнай зале школы ў Навакорніне спаткаліся вучні, дашкольнікі, бацькі і настаўнікі. Сабраныя прытрымліваліся санітарнага рэжыму (праверка тэмпературы, дэзінфекцыя рук, маскі). На зважай усе выслухалі дзяржаўны гімн. Дырэктар школы Анна Красько прывітала сабраных, пажадала вучням поспехаў у навуцы і падзякавала бацькам за намаганні па захаванні дзейнасці асветнай установы ў іх вёсцы. Дырэктар паведаміла пра арганізацыю пачатку школьнага года, прадставіла новых настаўнікаў і адказвала на пытанні бацькоў.

Дырэктар Анна Красько ўдакладніла, што раней бацькі запісалі ў школу 22 вучняў і дашкольнікаў. 31 жніўня бацькі пацвердзілі ахвоту пасылаць на навуку 20 дачок і сыноў. На першы дзень вучобы ў школу прыбыло з бацькамі 18 вучняў і дашкольнікаў, але ёсць спадзяванні, што яшчэ двое дзетак будуць пераведзены з іншых школ.

— У верасні мы, настаўнікі, будзем працаваць бясплатна, але я веру, што станоўча вырашыцца справа перадачы Гміннай управай адукацыйнай субвенцыі нашай школе за чарговыя месяцы, да канца снежня. Шукаем таксама спонсараў, якія падтрымаюць дзейнасць нашай школы. Можа нам на прынцыпах валантарыяту прыйдзецца працаваць даўжэй, чым праз верасень. Аднак я перакананая, што калі сёння пачала працу новаадчыненая непублічная пачатковая школа, будзе яна прадаўжацца і пераадолеем чарговыя складанасці. Новая субвенцыя будзе прызначана ў пачатку наступнага года і тады будзем яе атрымліваць без перашкод, — заявіла дырэктар Анна Красько.

— Аб'яднанне «Адукатар» звярнулася з просьбай аб перадачы ў карыстанне школьнага будынка і асветнай субвенцыі ад верасня 2020 года. Аднак маючы на ўвазе інтарэс гміны і нашага бюджэту няма магчымасці перадаць асветную субвенцыю ад верасня, — заявіла войт Гайнаўскай гміны Люцына Смактуновіч яшчэ 29 ліпеня і дабавіла, што самаўрад можа, але не мае абавязку перадаваць частку асветнай субвенцыі ў час каляндарнага года адзінкам, якія ў гэтым часе ствараюць новую школу. Цяпер чарговы раз войт заявіла, што не перадасць субвенцыі непублічнай школе ў Навакорніне ад верасня 2020 года. Дабавіла, што субвенцыя будзе перадавацца школе ад пачатку студзеня 2021 года, а яе велічыня будзе залежаць ад колькасці дзяцей, якія да 30 верасня будуць вучыцца ў непублічнай пачатковай школе.

Старшыня Грамадска-асветнага аб'яднання «Адукатар» у Ломжы Барбара Кучалэк заявіла, што цяпер дзейнасць непублічнай школы ў Навакорніне будзе ў вялікай ступені залежаць ад рашэння войт і радных Гайнаўскай гміны ў справе субвенцыі на апошнія месяцы 2020 года.

— Мы раней не ведалі, што адукацыйная субвенцыя перадаецца самаўрадам на вучняў у штомесячных траншах. Мы будзем выступаць да войт Гайнаўскай гміны Люцыны Смактуновіч, старшыні Рады Гміны Гайнаўка Яраслава Кота і да радных з просьбай прыняць рашэнне аб перадачы нам адукацыйнай субвенцыі, якая ідзе за кожным дзіцём у паасобную школу, за перыяд ад пачатку верасня да канца снежня гэтага года, — заявілі бацькі вучняў непублічнай школы.

У час сесіі 29 ліпеня войт заявіла, што са школьнага будынка ў Навакорніне будуць забраны новыя камп'ютары і частка адукацыйных дапаможнікаў і абсталявання школы.

— Працаўнікі, выконваючы загад войт гміны, забралі новыя камп'ютары, электронную тэхніку, абсталяванне кухні, усе лепшыя парты і крэслы, а таксама лепшую мэблю. У частцы класаў засталіся голыя сцены і месцы па дошках, паколькі ўсе лепшыя забралі. Засталіся ў школе знішчаныя парты, крэслы, старая мэбля, а таксама знішчаныя цацкі і прылады. Калі будзем атрымліваць асветную субвенцыю, з часам будзем купляць усё патрэбнае, але шкада зараз дзетак, якія памятаюць як школьны будынак быў абсталяваны раней, а які зараз яго выгляд і абсталяванне, — сказалі бацькі — Людміла Карпюк, Дарота Раманюк, Іаанна Пуцінік і Дарота Сіняковіч.

Бацькі заявілі, што ўсе дзеці раней вучыліся беларускай мове і будуць вучыцца па-беларуску надалей.

— Калі мы прыйшлі ў школу, каб прыбраць залы, прыкра было глядзець, як у кантэйнер укідвалі мэблю, крэслы, цацкі. Маглі б іх нам пакінуць, — сказала Людміла Карпюк.

— Мы не разумеем забірання цацак і іншага абсталявання, якое патрэбнае дзеткам, каб маглі вучыцца. Дзеткі прывыклі да прылад і цацак, а іх зараз тут няма. Аднак мы задбаем, каб усё гэта ў будучыні тут было, — сказаў Каміль Самайлюк.

— Зараз у гэтай зале пустыя сцены, а былі тут мэбля і дошкі, якія забралі. Забралі таксама з гэтай залы большасць парт і крэсел, ляжанкі і навейшыя прылады для навукі і гульняў, — удакладнілі бацькі.

Войт Люцына Смактуновіч паведаміла, што школьны будынак у Навакорніне быў перададзены аб'яднанню «Адукатар» з частковым абсталяваннем, пра што «Адукатар» ведаў. Удакладніла таксама, што забранае абсталяванне было перададзенае школе ў Дубінах.

— Зараз няма адпаведных умоў да вучобы ў гэтай школе. Няма камп'ютараў і электроннага абсталявання. Аднак мы вучымся тут здаўна і хацелі б закончыць навуку ў гэтай школе, — заявілі двое старэйшых вучняў.

Бацькі сказалі, што ім асабліва залежыць, каб школа ў Навакорніне дзейнічала надалей, паколькі яна блізка іх дому. У школе раней была вельмі добрая атмасфера і маюць надзею, што такая будзе надалей. Бацькі паінфармавалі, што ўжо куплены камплекты, якія будуць выкарыстоўвацца ў час спажывання абедаў. Зараз яны самі будуць давозіць дзяцей у школу, прыбіраць школьны будынак і дапамагаць школе. Дырэктар Анна Красько ў час выступлення перад вучнямі, бацькамі і настаўнікамі старалася пераканаць іх да станоўчага думання аб будучыні непублічнай школы і заявіла: «Справімся і будзе ўсё добра».

— Старыя падручнікі і кніжкі ў школьнай бібліятэцы засталіся. Будзем заказваць бясплатныя новыя падручнікі. Цяпер сярод прадпрыемстваў і ўстаноў шукаем спонсараў. Будзем таксама тэлефанаваць па розных школах у пошуках непатрэбных ім парт, крэсел і дапаможнікаў, якія нам спатрэбіліся б у адукацыйным працэсе. Засталіся ў школе старыя камп'ютары, але не ведаю, ці яны яшчэ будуць прыдатнымі, — заявіла дырэктар Анна Красько. — За апошнія два дні канікулаў удалося мне скамплектаваць настаўнікаў. Гэта ў большасці педагогі, якія раней ужо працавалі ў гэтай школе, але згадзіліся займацца з вучнямі ў першым перыядзе на прынцыпах валанцёрства. Ёсць некалькі настаўнікаў, якія працавалі ў гэтым школьным будынку і хочуць надалей вучыць дзетак. Якраз вялікі козыр нашай школы гэта невялікая колькасць вучняў у параўнанні з іншымі школамі. Калі ў класе мала дзетак, настаўнік можа растлумачыць незразумелае кожнаму вучню асобна. Я добрай думкі і веру, што пераадолеем цяжкасці, атрымаем сродкі з асветнай субвенцыі і наша школа будзе прывабнай таксама для вучняў і бацькоў з наваколля.

Тэкст і фота
**Аляксей МАРОЗА**

## ЗНАКАМІТАСЦІ ПАМЕЖЖА

Не перастаю верыць, што ўсё ж такі надыдзе час, калі да нас будуць ездзіць нашы бліжэйшыя суседзі з Польшчы не толькі з мэтай наведаць магазіны і сваякоў, але і ў пошуках духоўных скарбаў. Каб наталіць душу ведамі, варта пазнаёміцца не толькі з цудоўнымі мясцінамі Камянеччыны, але і з людзьмі, якія мелі (і маюць) дачыненне да нашага раёна.

Некалі „Ніва" на сваіх старонках друкавала мае допісы аб польскамоўных пісьменніках, лёс якіх быў цесна звязаны з Берасцейшчынай. Сёння я хачу пазнаёміць чытачоў выдання з беларусамі, якія нарадзіліся або пэўны час жылі і працавалі на тэрыторыі нашага раёна.

Гэта вядомыя далёка за межамі Беларусі паважаныя асобы: Васіль Жуковіч з Дзмітровічаў, Уладзімір Гніламёдаў з Кругеля, Уладзімір Стэльмах з Бушміч і іншыя.

Буду вельмі ўсцешана, калі мае допісы дапамогуць чытачам „Нівы" пашырыць культурны ўзровень

**З удзячнасцю — Тамара Лаўранчук. г. Высокае**

## АКАДЭМІК З КРЫНАК

Вёска Крынкі — самы заходні населены пункт Беларусі, на мяжы з Польшчай. Побач працякае Буг. Сёння гэта вёсачка ўяўляе сабой закінуты куточак Камянеччыны, дзе дажываюць свой век апошнія жыхары. Непадалёку — Паніквы, крыху ў аддаленні — цэнтральная сядзіба ААТ „Увасход-Камянец" — вёска Навасёлкі. Тут, у Крынках, у сялянскай сям'і 17 жніўня 1888 года нарадзіўся будучы акадэмік Акадэміі Навук Украіны Леанід Пятровіч Грэбінь.

Падзеі 1915 года прывялі яго, як і многіх землякоў у пошуках заробку пасля бежанства, ва Украіну. Атрымаўшы тут вышэйшую адукацыю, зацікавіўся жывёлагадоўляй. Абараніўшы ў 1948 годзе дысертацыю, больш за тры дзесяцігоддзі працаваў у інстытуце жывёлагадоўлі стэпавых раёнаў, размешчаным на тэрыторыі запаведніка Асканія-Нова (Украіна). Сёння гэты запаведнік мае статус біясфернага рэзервата і займае плошчу ў 33,40 тысячы гектараў.

Пяру Леаніда Грэбіня належыць вялікая колькасць навуковых даследаванняў па пытаннях заатэхнікі, што садзейнічала яго членству ва Усесаюзнай Акадэміі сельскагаспадарчых навук. Памёр акадэмік на 93-м годзе жыцця.

**Тамара Лаўранчук**




## Крытыка дапамагла

У „Ніве" № 18 ад 3 мая 2020 года быў надрукаваны мой крытычны допіс пад загалоўкам „Непрыгодны аўтамабіль у лесе" са здымкам. Пакінулі яго ў лесе Плянта каля Новага Ляўкова Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета.

Ён доўгі час быў на адной з лясных дарожак. Аўтамашыну легкавушку абкралі, забралі з яе, між іншым, найперш колы, а пасля руль, сядзенні, адны дзверы, развінчвалі, разбуралі.

30 ліпеня гэтага года ехаў я збіраць чарніцы ў лесе Плянта. Тут неспадзеўка — пакінуты некім непрыгодны чорнага колеру аўтамабіль забралі з лесу на пункт скупкі металалому. **(яц)**

# Няўдалыя арлянскія інвестыцыі

Орля, на жаль, можа «ганарыцца» таксама інвестыцыямі ды планамі, якія можна і трэба назваць сорамам, негаспадарнасцю, марнатраўствам гмінных і прыватных грошай, дрэннай візіткай Орлі ды адсутнасцю зацікаўлення далейшым развіццём гміны, асабліва ў мінулым, так са староны ўлад, як і некаторых жыхароў.

Орля, гэта асаблівая мясцовасць, якой — у пэўным сэнсе — паспрыяла мінуўшчына. Цягам доўгага перыяду гмінныя ўлады не патрабавалі самі нічога будаваць. Чаму? Бо многія грамадскія і прыватныя будынкі засталіся быццам у спадчыну:

— з царскага перыяду — былыя шпітальныя будынкі, якія служылі публічнай адміністрацыі да 1985 года, а некаторыя служаць і надалей іншым мэтам;

— пасля жыдоў — дом Ёлкі Ліманскага, у якім у пасляваенны перыяд да 2015 года размяшчаўся асяродак здароўя; таксама многа мураваных будынкаў у цэнтры мястэчка заняў ГС ды асобныя жыхары.

Гміна ў канцы 1980-х гадоў пачала пабудову новай амбулаторыі, але нічога не атрымалася, асталася «памятка» незавершанай будовы. Паратавала прыватная ініцыятыва аднай асобы звонку Орлі, якая сумела цягам аднаго года сама пабудаваць асяродак здароўя разам з аптэкай.

Прадстаўляю дзве няўдалыя інвестыцыі ў Орлі і дзве толькі планаваныя.

**Замест блока — сметнік**

Яшчэ ў 1980-х гадах у Арлянскай гміне было многа маладых сем'яў, якія патрабавалі свайго жылля. І менавіта тады нехта з радных задумаў пабудаваць у Орлі жылы блок для маладажонаў.

У пачатку 1990-х гадоў пры Гміннай управе быў заснаваны жыллёвы кааператыў. З ліку работнікаў гміннай адміністрацыі былі выбраны ўлады кааператыва — старшыня і скарбнік — ды звонку ўправы намеснік старшыні. Быў адкрыты рахунак ПКО ў Бельску-Падляшскім.

Неўзабаве ў кааператыў запісалася каля дваццаці асоб, якім пасля заключэння дамовы трэба было цягам сямі дзён уплаціць у якасці ўступнага ўзносу тадышнія 13 мільёнаў злотых. Кіраўніцтва кааператыва абяцала ім хуткае ўзвядзенне жылога блока па вуліцы Бельскай. Вестка маланкава разышлася па ўсёй гміне. Марыя Прызовіч са Шчытоў-Навадвораў таксама вырашыла забяспечыць кватэрай сваіх дзяцей і так успамінала мне ў 1999 годзе:

— Уплаціла я першую рату восенню 1990 года — пяць мільёнаў, а вясною наступнага года чарговыя сем мільёнаў. Ашчаднасцей у мяне не было, дык трэба было прадаць тры бычкі. Гаварылі нам яшчэ, што кааператыў атрымае ў банку крэдыт і неўзабаве пачнецца будова.

Маладыя людзі цешыліся, але ніхто з іх не спадзяваўся, што не суджана ім спраўляць наваселле і што ў дадатак страцяць уплачаныя грошы. Час няўмольна ішоў, а будова, засеўшы ў катлаване, не магла выйсці на паверхню.

— У 1997 годзе кааператыў склікаў агульны сход членаў, — успамінала спадарыня Марыя Прызовіч. — Старшыня абяцаў, што паедзе ў Беласток, каб суд аб'явіў неплацежаздольнасць кааператыва і тады можа нехта купіць пляц. Потым гэта аказалася немагчымым, бо для разбору справы аб банкруцтве таксама патрэбны грошы. Тады члены кааператыва сталі патрабаваць вяртання ім грошай, але выявілася, што на банкаўскім рахунку грошай няма. Старшыня кааператыва не хацеў мне паказаць



■ Фота з 1997 года: закінутая будова новага асяродка здароўя ў Орлі. На другім плане фундаменты, справа гаражы. Ці ж нельга зрабіць тут амфітэатр?

фінансавых дакументаў. Як можна было змарнаваць столькі нашых грошай?!

Пасля дзесяці гадоў на месцы блока віднеў засмечаны катлаван з рэшткамі фундаментаў, зарослы пустазеллем, з якога тырчалі драты, грошы многіх членаў кааператыва.

У планах пабудовы жылога блока было намечана знясенне са староны вуліцы Бельскай шматсямейнага (для чатырох сем'яў) вялікага драўлянага дома. Быў ён пабудаваны яшчэ ў царскі час, пры санацыі і пасля вайны была ў ім сядзіба Гміннай управы, чаргова ў будынку пражывалі чатыры сям'і — мясцовага лекара, міліцыянера, настаўніцы і радавых людзей. Апошнім часам жыве там з сям'ёю жыхар Шлёнска. Расказаў ён мне, што жыхарам гэтага дома кааператыў абяцаў (падпісалі дамову) кватэры ў новым блоку. І шчасце, што не дайшло да зносу, бо не было б і блока, і гэтага будынка. Сёння той стары будынак грунтоўна адрамантаваны шлёнзакам (мае ў ім тры кватэры — сабе і сынам), прыстойна выглядае пры вуліцы.

А блок? Пасля некалькіх гадоў сметнік з падземнымі фундаментамі — доказ чалавечай дурнаты — завалілі зямлёю. Магчыма, што ў будучыні археолагі, калі яго адкрыюць, будуць задумвацца, якая то няўдачлівая цывілізацыя тут пражывала...

**Кінулі будову новага асяродка здароўя**

Каля 1989 года, паралельна са школай, пачалі будаваць у Орлі (недалёка школы) новую вялікую амбулаторыю — гмінны асяродак здароўя. Будову пачалі з размахам. Выкапалі падвал, заклалі фундаменты, залілі скляпенне і два пад'езды для калясак, адначасна пабудавалі на далейшым плане чатыры гаражы і будаваць пакінулі. Час ішоў і зладзеі задзейнічалі з пакражы гаражных дзвярэй... Настала дэмакратыя, ахова здароўя стала прыватнай, з'явіліся г.зв. сямейныя лекары, якія паўсюдна будавалі свае прыватныя амбулаторыі або наймалі будынкі. Тадышні войт Міхал Іванчук (і Гмінная рада) адмовіўся ад прадаўжання будовы таго асяродка, які перастаў падлягаць гмінным уладам. І тут можна яму прызнаць рацыю. Хаця, калі б асяродак пабудавала гміна, то можна было б яго даваць у пракат.

Войты мяняліся, настаў Пётр Сэльвесюк, які недзе каля 2005 года — пастановай Гміннай рады — прадаў той пляц з незавершанай будовай. Купіў гэта прыватнік з-па-за Орлі, а ў народзе пайшла пагалоска, што ён пабудуе амбулаторыю і нават пасадачную пляцоўку для верталётаў. Тадышні войт, прадаючы гэтую будаўнічую язву, хацеў пазбыцца гміннай праблемы, бо людзі дапытваліся, што далей з пабудовай. Войт пазбыўся гміннай праблемы, але будаўнічая язва асталася. Новы ўладальнік нічога там не рабіў, пляц з фундаментамі надалей зарастаў пустазеллем і самасейнымі кустамі, нават дрэвамі. Трэба адзначыць, што новы ўладальнік стаў у Орлі вядомай і шанаванай асобай — шматлікімі гадамі яго запрашаюць на народныя беларускія фэсты, абнародваюць са сцэны ягонае прозвішча, запрашаюць у першы рад з іншымі гасцямі, а соткі людзей вітаюць яго воплескамі. А задуманая калісь амбулаторыя ўжо амаль зарасла самасейным кустоўем, быццам старажытныя помнікі культуры племя майя ў джунглях, побач прыгожай праваслаўнай капліцы ў гонар св. Сімяона Стоўпніка. І дзеецца гэта амаль у цэнтры мястэчка...

Тут трэба, аднак, зразумець таго ўладальніка, бізнесмена. Як кажуць, мабыць не мае ідэі. Я мяркую, што аднак гмінныя ўлады павінны дайсці з ім да паразумення і дапамагчы яму з карысцю для жыхароў гміны, бо гэта ўжо наша супольная праблема. Закінутая будова, то гэта быццам гатовы амфітэатр. Крыху выдаткаў, працы, выканаць там на фундаментах нейкі дах, купіць пластмасавыя крэслы для гледачоў (так як купілі на стадыён у Кашалях) і Орля мела б пастаянную сцэну. А так штогадова плаціць гмінныя грошы на кожны пракат сцэны на народны фэст.

Я ўжо не радны, такой прапановы не ўнясу, маем новага войта. Можа пасля гэтай публікацыі так станецца. Бо нейкая ідэя ў такой сітуацыі вельмі патрэбная.

Трэба адкрыта канстатаваць, што ў нядаўнім арлянскім мінулым мясцовыя ўлады не сумелі задбаць пра добрыя ўмовы для медыцынскіх паслуг. Карысталіся тут «трафейным».

Яшчэ да выбуху Першай сусветнай вайны Орля мела — пабудаваны ў царскі час — свой шпіталь і добрых спецыялістаў у ім. Пасля вайны шпіталь быў ліквідаваны, а будынкамі ў міжваенны перыяд карысталіся мясцовая школа і сірацінец. Пасля Другой сусветнай вайны згаданыя будынкі занялі гмінная ўправа, дзіцячы сад, бібліятэка, дом культуры і клуб, школа.

Гмінная ахова здароўя для сваіх медыцынскіх патрэб і на радзільны дом заняла былы яўрэйскі будынак — Ёлкі Ліманскага, печніка. Будынак пабудаваны пасля пажару Орлі 18 мая 1938 года. У час нямецкай акупацыі, па загадзе немцаў, яўрэі з гета будынак разбудавалі. У пасляваенных гадах кароткі час змяшчалася там таксама частка школы.

Будынак старой амбулаторыі за ўсю сваю гісторыю рамантаваўся некалькі разоў, але яго інтэр'ер не радаваў пацыентаў з-за старасці і занепаду. Служыў ён жыхарам гміны (на гарышчы жыла лекарка) да 2015 года і напэўна мусіў бы служыць надалей, калі б не прыватная ініцыятыва — асоба з Бельска, якая сама пабудавала па вуліцы Бельскай невялікі новы будынак для медыцынскіх паслуг і аптэкі. Гэты будынак цешыць людзей. А будынак старой амбулаторыі стаіць закрыты — папярэдні войт намерваўся прадаць яго (была пастанова), цяперашні войт прымяркоўваўся з раднымі адрамантаваць яго на г.зв. дом дзённага прабывання для пенсіянераў. Пакуль што астаецца па-ранейшаму, значыць, не відаць ніякіх прац.

(працяг будзе)

Апрацаваў, запісаў і сфатаграфаваў **Міхал МІНЦЭВІЧ**

# Найлепшыя па літаратуры і культуры ў Беластоку

Пераможцамі літаратурнага конкурсу імя Веслава Казанэцкага на лепшую кнігу 2019 года сталі Агнешка Паянчкоўская і Ніна Манэль. Караліна Ціха, Міхал Яцкоўскі і Гжэгаж Касдэпке атрымалі мастацкія прэміі прэзідэнта горада Беластока. Лепшай кнігай 2019 года (29 выпуск) стала «Wędrowny zakład fotograficzny" сацыёлага і фатаграфіка Агнешкі Паянчкоўскай (за захоплены мовай, поўны суперажывання, сацыялагічны праект). Сума прыза складае 25 тысяч злотых.

— Я вельмі ўдзячна за прызнанне мне гэтай прэміі. Гэтая кніга нарадзілася на вопыце сустрэчы з людзьмі, якіх я не ведала і якія мяне не ведалі. Гэта ўзнікла з ідэі, што сустрэча з незнаёмымі людзьмі, якія жывуць у крыху іншых рэаліях, магчымая, калі яна грунтуецца на прынцыпах добраахвотнасці, узаемнасці, абмену, даверу і адкрытасці. Я спадзяюся, што досвед, які я паспрабавала перанесці на старонкі гэтага тэксту, можа стаць заахвочваннем, запрашэннем усіх нас паспрабаваць практыкаваць яго ў сваім жыцці. У мяне такое адчуванне, што нам гэта зараз вельмі трэба. Я жадаю ўсім, каб мы ведалі, як размаўляць паміж сабой з узаемнай адкрытасцю, даверам і павагай да нашых рознагалоссяў, — сказала Агнешка Паянчкоўская пасля атрымання ўзнагароды.

У намінацыі лепшы агульнапольскі паэтычны дэбют года прэмію атрымала Ніна Манэль за паэтычны том «Транспарты» (за ўдалае спалучэнне кагнітыўнай навукі з фемінізмам і акадэміі з дыскатэкай). Узнагарода склала 10 тысяч злотых.

— Мяне кранула і здзівіла, што я атрымала гэтую ўзнагароду, — сказала Ніна Манэль падчас цырымоніі. — Упершыню прэмія ўручаецца ў агульнапольскай катэгорыі «Дэбют года», і мая намінацыя стала вялікай нечаканасцю.

У томе «Транспарты» аўтарка хацела адлюстраваць «сваё ўспрыманне рэчаіснасці і тое, як пачуцці ў біялагічным сэнсе вызначаюць успрыманне, наколькі суб'ектыўным з'яўляецца агляд свету, чалавечыя погляды і думкі».

— Гэты том паэзіі, насуперак таму, што часам здаецца чытачам, не з'яўляецца самастойным творам, — падкрэсліла Ніна Манэль у сваёй прамове. — Гэта калектыўная праца, у якой удзельнічае шмат людзей — не толькі аўтар ці аўтарка, але і рэдактары, карэктары, выдаўцы. Таксама сябры, паэты і паэткі, якія часта чытаюць гэты том у рамках кансультацый; аўтары падборкі вершаў, а таксама ўсе, хто дапамагае ў выданні гэтага тома. Таму што сёння гэта не так проста апублікаваць — асабліва дэбют у такой непапулярнай галіне, як паэзія.

Урачыстае абвяшчэнне вынікаў абодвух конкурсаў адбылося падчас гала-канцэрта 23 жніўня ў кінатэатры «Форум» у Беластоцкім цэнтры культуры.

Літаратурнай прэміяй прэзідэнта горада Беластока імя Веслава Казанецкага ўзнагароджваюць з 1992 года за дасягненні ў галіне літаратуры жывых аўтараў. Конкурс праводзіцца ў дзвюх катэгорыях. Першая — лепшая кніга года (сярод усіх літаратурных жанраў; яна прысвечана аўтарам, звязаным з Беластокам ці рэгіёнам — асобам, якія паходзяць адсюль, жывуць альбо іх творы спасылаюцца на гэтае месца. Другая катэгорыя — лепшы агульнапольскі паэтычны дэбют года. Атрымалі прэмію м.інш. Ян Леанчук, Альжбета Казлоўская-Свянткоўская, Кшыштаф Гедройць, Ян Камінскі, Ігнат Карповіч, Міхал Андрасюк і Міра Лукша. На сёлетнюю ўзнагароду было намінавана восем кніг, капітулам конкурсу з 68 заявак.

Што да арт-прэміі, то гэта было яе 27-е выданне. Узнагароджаны былі прэзідэнтам Беластока мастакі за дасягненні ў галіне стварэння і распаўсюджвання культуры. У гэтым годзе ў мастацкай катэгорыі перамаглі Караліна Ціха — за папярэднія музычныя праекты, у тым ліку пра мультыкультуралізм горада і рэгіёна, і скульптар Міхал Яцкоўскі — за ўсю сваю дзейнасць, а ў катэгорыі папулярызацыі культуры і культурнай адукацыі — Гжэгаж Касдэпке, шматгадовы галоўны рэдактар культавага дзіцячага часопіса «Свершчык», журналіст, аўтар сцэнарыяў, пісьменнік для дзяцей і падлеткаў — за ўсю сваю дзейнасць.

Караліна Ціха была вельмі рада атрымаць узнагароду 23 жніўня.

— Неўзабаве мае адбыцца прэм'ера майго альбома «Тапу», які вельмі шмат выходзіць з гэтага рэгіёну, з рознай традыцыйнай музыкі, у тым ліку музыкі меншасцей, але яна будзе танцавальная. Там запісана песня разам з Каралінай Чарнецкай, актрысай з Саколкі, якая скончыла нашу тэатральную акадэмію.

— Я думаю, што гэта ўзнагарода таксама за «całokształt», а не толькі за «całokształt", — жартаваў Міхал Яцкоўскі, скульптар, бацька семярых дзяцей. — Я не адчуваю сябе вартым гэтай узнагароды, таму што я толькі пачынаю гэты «цэлакшталт».

Ён захоўваў і ўзнаўляў скульптуры ў палацы Браніцкіх і ваколіцах, а таксама рэалізацыі ў храмах

— Скульптура — гэта не паэзія, і ёй патрэбны матэрыялы з плоці і крыві, паэты лепяць свае вершы з душы. Рэдка чуем, што скульптар атрымлівае якую-небудзь узнагароду, і я думаю, што гэта яшчэ больш рэдкая дысцыпліна, чым паэзія. Наша скульптурная паэзія крыху зафіксавана ў формах, ваша застаецца ў свядомасці. Маё мастацтва — з нашага горада, бо гаворыць пра адносіны паміж намі, — сказаў Міхал Яцкоўскі.

Узнагарода за жыццёвыя дасягненні таксама здзівіла Гжэгажа Касдэпке, беластоцкага аўтара шырока чытаных кніг для дзяцей і падлеткаў.

— Я спадзяюся, што ўзнагарода не з'яўляецца замаскіраванай формай «годзе», — жартаваў Касдэпке. — Я не маю намеру быць маўклівай большасцю, а буду выказваць свае меркаванні, калі гэта неабходна. Праз год споўніцца 30 гадоў з таго часу, як я жыву ў Варшаве, але я заўсёды прадстаўляюся, што я жыхар Беластока, які жыве ў Варшаве, і так будзе да канца жыцця.

І ўспомніў пра літаратурны фестываль, які суправаджаў кніжны кірмаш у Беластоку, створаны сумесна з Фондам «Суседзі»:

— Гэта фестываль, з якога пісьменнікі выязджаюць шчаслівыя, зачараваныя нашым горадам і яны значна лепшыя амбасадары Беластока, чым групы крыклівых бандытаў. Давайце ўкладваць грошы ў культуру, бо гэта проста акупляецца для ўсіх нас у свеце. Нягледзячы на гэтую ўзнагароду, часам я маю намер паказаць мяцежную душу, і калі высветліцца, што ў маім любімым горадзе нешта не так, я гучна скажу пра гэта. Я хацеў бы стаць амбасадарам не толькі для ўсіх, хто часам баіцца выйсці на вуліцу, але нават часам для нашых маўклівых сяброў, напрыклад, з зелені горада. Я буду пратэставаць супраць кожнага непатрэбна спілаванага дрэва, бо мне здаецца, што Беластоку прыгожа ў зялёным колеры. Наш горад — гэта горад, якому падыходзіць кожны колер вясёлкі!

Сума кожнай з гэтых узнагарод — 17 тысяч злотых.

— Віншую лаўрэатаў. Я рады, што такім чынам мы можам ушанаваць і ацаніць іх неацэнную працу па развіцці культуры і Беластока, — сказаў прэзідэнт горада Тадэвуш Трускаляскі.

Цырымонія ўзнагароджання завяршылася канцэртам фенаменальнага Кубы Бадаха з гуртом. З-за пандэмічных асцярог гледачоў на мерапрыемстве была толькі палова, і кожны схаваны за масачкай. Але ўжо ў дзвярах у «Форум», памераўшы тэмпературу, усе віталіся па імені!

Тэкст і фота
**Міры ЛУКШЫ**

## Прастуда і грып

Прастуда і грып з'яўляюцца найбольш распаўсюджанымі захворваннямі сярод людзей. У сярэднім дарослы чалавек пакутуе прастудай 2-3 разы на год, у той час як дзеці могуць прастудзіцца ў два-тры разы часцей. Назва «прастуда» — звычайны тэрмін для сотняў вірусаў, якія выклікаюць падобныя сімптомы. Існуе так шмат вірусных узбуджальнікаў (патогенаў), што калі б лекар хацеў праверыць, які вірус адказны за тую ці іншую прастуду, хвароба прайшла б, і вірус, верагодна, не быў бы знойдзены. Змена імунітэту. Прастуда — выклік, і ведаем, чаму так складана знайсці для яе падыходны лек. Павінна спрацаваць наша імунная сістэма. Вірусы прастуды і грыпу пастаянна мутуюць, таму нашаму арганізму неабходны час, каб распазнаць «новы» вірус і прымяніць правільную тактыку. Як вірус прастуды і грыпу «думае». На самой справе вірусы грыпу і прастуды нават не жывыя арганізмы. Яны ў тысячу разоў меншыя, чым бактэрыі і складаюць толькі радок генетычнага матэрыялу ў бялковай абалонцы. Пасля ўваходу ў клеткі гаспадара яны прымушаюць яго выпрацоўваць ДНК віруса. Калі заатакаваныя лопаюць, новыя вірусы дастаюцца з іх, атакуюць іншыя клеткі гаспадара.

Як цела змагаецца з вірусамі прастуды і грыпу? Адным з першых сімптомаў хваробы з'яўляюцца жаўтлявыя або зеленаватыя вылучэнні. Наш арганізм выпрацоўвае іх як пастку для вірусаў. Гэтая сакрэцыя з'яўляецца прыкметай заражэння і вынікам энзімаў, якія знаходзяцца ў лейкацытах, але яе колер не падказвае, ці маем справу з бактэрыяльнай, ці вірУснай інфекцыяй. Болі цягліц таксама з'яўляюцца вынікам барацьбы арганізма з інфекцыяй. Імунная сістэма забірае бялок з цягліц, каб ім можна было змагацца з вірусамі — гэтыя намаганні прымушаюць нас адчуваць боль, але калі дадамо трохі бялку ў сваё харчаванне, палагодзім гэтыя непрыемныя адчуванні. Трэба думаць станоўча, калі нават нам кепска. Навукоўцы даказалі, што пазітыўнае мысленне і ўзаемадзеянне з людзьмі добра ўплываюць на імунную сістэму і прадухіляюць хваробы. Пазітыўнае мысленне — выдатны спосаб барацьбы з прастудай і грыпам у час самага высокага ўзроўню захворванняў.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

## Адкуль узяўся каранавірус?

Падазрэнні пацвярджаюцца. Першыя заражэнні каранавірусам былі зафіксаваны яшчэ ў 2012 годзе, — паведамляюць два навукоўцы са спасылкай на кітайскага лекара. Першымі ахвярамі стала шасцёх шахцёраў, некалькі з іх памерлі. Іх пробкі былі адпраўлены на абследаванні ва Уханьскі інстытут вірусалогіі. Гарнякі мелі кантакт з экскрэментамі кажаноў, якія выкідвалі з шахты. Праз восем гадоў Ухань быў першым заражаным горадам. Адтуль вірус распаўсюдзіўся па ўсім свеце.

Было ўстаноўлена, што сімптомы ў хворых шахцёраў падобныя на сённяшнія захворванні на каранавірус. Менавіта кажаны былі насіцелямі каранавіруса да таго, як вірус «пераскочыў» на чалавека (магчыма, у той час быў у яго прамежкавы гаспадар).

Першапачаткова падазравалі, што шахцёры маюць пнеўманію альбо рэспіраторныя захворванні, характэрныя для тых, хто працуе на шахтах. Цяпер кажуць, што гэта, хутчэй за ўсё, быў COVID-19.

Лячэнне шахцёраў было падобным на цяперашняе лячэнне COVID-19. Вірусолаг Джонатан Лэтхем і малекулярны біёлаг Элісан Уілсан апісалі выпадак шахцёра, які, на думку кітайскага лекара, не хварэў звычайнай пнеўманіяй і грыпам. «Даныя з пробак і даследаванняў схілілі нас перагледзець усё, што было вядома пра наступленне пандэміі COVID-19», — заявілі даследчыкі Лэтхэм і Уілсан. Навукоўцы мяркуюць, што за ўсёй пандэміяй стаіць пробка каранавіруса, якая знаходзілася ва Ухане. Магчыма, той, хто меў да яе доступ, не змог належным чынам забяспечыць яе падчас сваіх даследаванняў. **(лук)**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Нарэшце зазвінеў школьны званок!

Пасля некалькіх месяцаў дыстанцыйнага навучання нарэшце вяртаемся да нармальнай працы за школьнай партай. Для дзяцей з Залук традыцыйна новы навучальны год пачаўся святымі імшамі ў інтэнцыі дзяцей, моладзі, настаўнікаў і бацькоў у гарадоцкіх касцёле і царкве. Святары звярнулі ўвагу на вельмі важны фактар, што кожны з нас абдараваны нейкім выключным талентам, які трэба берагчы і развіваць. У гэтым вельмі моцна дапамагаюць настаўнікі, якія за вамі бачна наглядаюць і ведаюць вашы моцныя і слабейшыя бакі. Нельга дазваляць, каб змарнаваць наша найбольшае багацце — талент. Менавіта ў час дыстанцыйнага навучання кожны мог пераканацца як важнай з'яўляецца праца вашых настаўнікаў. Нарэшце можна было зразумець, як часта патрабуем падказкі ці добрага слова ад тых, якія штодзень турбуюцца, каб перадаць патрэбныя для развіцця веды.

— Я так моцна хацела б прытуліцца да маёй настаўніцы, але не магу, — з сумам сказала вучаніца трэцяга класа Гося Паплаўская.

Вядома, што мы вярнуліся ў крыху іншую школу, дзе трэба захоўваць новыя законы і шанаваць новы парадак. Вучні малодшых класаў школы ў Залуках менавіта цёплым абдымкам віталі сваіх любімых настаўнікаў. Сёлета яны проста здалёк ужо крычалі прывітальныя словы. І хаця тварыкі вучняў былі закрытыя маскамі, адчувалася, што кожны прыйшоў у школу з усмешкай на твары. Калідор невялікай школы ў Залуках 1 верасня запоўніўся вясёлым гоманам. Вучні ветліва віталіся з настаўнікаміі паціхенькугаварылі, што цешацца з вяртання ў сваю невялікую школу. Вядома, канікулаў усім крыху шкада, але перспектыва дыстанцыйнага навучання зараз з'яўляецца для большасці школьнікаў страшэнным кашмарам.

— Я ўжо не мог сцярпець таго каранавіруса, — прызнаўся Пятро, вучань восьмага класа. — У школе неяк навука ідзе прасцей, чалавек не так стамляецца. Дома мне проста не хацелася адкрываць кніжак.

Хаця гэта сам пачатак, відаць, што сапраўды вучні вярнуліся ў школьныя муры з энергіяй, якая матывуе не толькі да адкрыцця новых кніжак, але таксама нашай «Зоркі». Вітаем усіх нашых чытачоў пасля доўгага перапынку з надзеяй, што навучальны год 2020/2021 стане паспяховым для ўсіх нас, нягледзячы на асаблівы год з-за пандэміі. Мы ўпэўнены, што ўсе адпачылі падчас канікулаў і вярнуліся да вучобы, працы і штодзённых абавязкаў поўныя сіл і пазітыўных эмоцый. Напэўна будзем сустракацца на старонках «Зоркі», дзе заўсёды чакаюць вас любімыя крыжаванкі і адгаданкі, а таксама вашы цікавыя гісторыі. Чакаем допісаў, дзякуючы якім будзем знаёміцца!






**Тэкст і фота Уршулі Шубзды**

## Папрыка фаршыраваная (перац крыпаны)

Восень для беларуса часта спалучаецца з самавітымі колерамі спелай гародніны. На першым плане тут разнаколерны перац, які ў нас называюць «папрыкай». Тады час на беларускі рэцэпт з гэтай агародніны.

**Складнікі:**

*500 грам чырвонай (звычайнай) папрыкі,*
*400 грам мяса,*
*100 грам рысу,*
*150 грам таматнай пасты*
*1 морква,*
*1 цыбуліна,*
*250 грам памідораў,*
*1 чубатая лыжка цукру,*
*50 грам алею,*
*соль.*

Струкі чырвонай папрыкі абмыць, абрэзаць верхавіны разам з хвосцікам і вычысціць з насення.

Падрыхтаваную такім чынам папрыку пакласці ў кіпучую падсоленую ваду на 1-2 хвіліны, затым выкласці на сіта і даць вадзе сцячы. Пасля гэтага напоўніць фаршам, пакласці ў рондаль, заліць вадою, дадаць масла і таматную пасту, тушыць пад накрыўкай у духоўцы ці на агні 30-40 хвілін.

**Падрыхтоўка фаршу:**

Мяса прапусціць праз мясасечку. Цыбулю дробна нашаткаваць, моркву нацерці на дробнай тарцы, абсмажыць, дадаць да сечанага мяса і адваранага рысу, перамяшаць.

***Падрыхтоўка фаршу з гародніны — варыянт для вегетарыянцаў:***

Моркву, пятрушку і цыбулю нарэзаць дробнай саломкай; падсмажыць на алеі, дадаць свежыя нарэзаныя памідоры без скуркі, цукар, соль, перац і давесці да гатовасці.

Запякаць як страву з мясам!

Наш рэцэпт з «Беларускай кухні» Юры Качука вылучаецца мінімальнасцю прадуктаў і дадаткаў, дзякуючы чаму мы атрымаем вялікую асалоду ад смаку папрыкі. Дзеля ўзбагачэння вегетарыянскага варыянту да фаршу можна дабавіць вараную фасолю. Такі састаў прыгадае вам індзейскую Мексіку, старую айчыну папрыкі.

Смачна есці! ***(гак)***

## УВАГА КОНКУРС! № 37-2020

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку" да 21 верасня 2020 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Маленькі работнік**
**шмат гадоў працаваў,**
**ніколі не спаў.**
**Толькі адзін раз**
**працаваць перастаў —**
**і на век прапаў.**
**С....**

Падказка: гэта частка цела ў людзей і жывёл.
(з народнага)

## Загадкі з роднай хаткі

**Адказ на загадку № 33: вішні. Узнагароду, кашульку з лагатыпам Сустрэч «Зоркі», выйграла Дыяна Іванюк. Віншуем!**





Фота Адама Паўлоўскага

# Міфы старажытных беларусаў

**БЯРОЗА** — нашы продкі раілі, каб бярозу садзіць блізка хаты. Яна лічылася шчаслівым дрэвам. Таксама яе ўспрымалі як сімвал маладосці, прыгожасці і чысціні. У народзе верылі, што бяроза здольная засцерагчы ад зла. Мы ведаем шмат песень і легенд, дзе дзяўчынаператварылася ў бярозку, а хлопец — у дуб або явар. Часта пад выглядам бярозы бачылі маладую жонку гаспадара, а яе галінкі — іх дзеці.

Бярозу шырока выкарыстоўвалі ў народнай медыцыне. З яе пілі сок, т.зв. асколу, каб набрацца жыццядайнай сілы. З яе таксама рабілі венікі, з дапамогай якіх абмываліся ў лазні. Нашы продкі надта цанілі вугаль з бярозы. Яго клалі ў ваду, над якой замаўлялі ўрокі і чары. Дзеля ўзбуджэння кахання карысталіся карой бярозы, якая зраслася з дубам.

Каля бярозы старажытныя беларусы праводзілі розныя абрады. З ёй сустракалі траецкія абрады. Ладзілі куст і высыпалі панадворак маладой зялянінай. Бярозавыя галінкі ўтыкалі ў чатыры куты хаты, пад столлю, накрыж і пад дах хаты, каб абараніць гаспадароў ад маланкі, граду, хвароб і іншага.

У чацвер траецкага тыдня маладыя дзяўчаты ішлі ў бярозавы гай, прыгіналі вершаліны двух дрэў, якія стаялі побач, і сплялі іх у вянок. Пасля па парах дзяўчаты пераходзілі праз гэтую «арку». Яны таксама пускалі бярозавыя вянкі на ваду, каб паваражыць пра свой лёс.

Бярозавыя вянкі завівалі пастухі і надзявалі іх на рогі каровам. Гэта мела паспрыяць іх малочнасці і перасцерагчы ад ваўкоў. Пра гэта ёсць песня з Дабрывады, прымеркаваная да свята Юр'я. На Купалле бярозавыя галінкі ўтыкалі ў плот, каб адагнаць ад гульбішча ведзьмаў. А ў Чысты чацвер мялі хату бярозавым венікам, які на наступны дзень спальвалі. Людзі верылі, што такім чынам разам з дымам сыдуць з хаты бяда, сум, усякія блохі і клапы.

Яшчэ аднойчы нядаўна на Падляшшы ўпрыгожвалі бярэзінай пляцоўкі, дзе гуляла вяселле. Іх утыкалі ў вясельны воз, а дзенідзе з бярэзіны рабілі шпалер, каб праз яго праехаў воз з маладажонамі. Як не цікава падобныя абрады былі ў старажытных вікінгаў і нарманаў.

Пра бярозу існавалі таксама дрэнныя ўяўленні. У час русальнага тыдня (тыдзень пасля Тройцы), верылі нашы продкі, на галінках бярозы гойдаюцца русалкі. Пад бярозай незвычайнай формы, па народных вераваннях, хавалі бязвінна забітых людзей. Нашы продкі верылі, што бярозка разам з ветрам чулліва заплача па іх долі.

*(Адрэзак на аснове «Беларускай міфалогіі для дзяцей»)*

**гак**



# Кацпэрэк з вялікай бульбай

Трохгадовы Кацпэрэк Харкевіч з Новага Ляўкова Нараўчанскай гміны захацеў пахваліцца перад чытачамі „Зоркі" цікавай паўтаракілаграмовай бульбінай (на фотаздымку). 5 верасня гэтага года выкапалі яе бабуля Марыя з дзядулем Кастусём на полі ў Лешуках. Праўда, што бульба не толькі вялікая але і незвычайная.

**Тэкст і фота Янкі Целушэцкага**



# Польска-беларуская крыжаванка № 37-20

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Oczy | Ar | | Polano | | | | | | |
| | | | | Hart | Łuna / Ałtaj | | | Kolor | |
| | Wiersz | Zdanie | Ganek | | | | | | As / Broda |
| | Skała | | | | | | Ob | | |
| | Kort | | | | | Ala | | | |
| Kurd / Kasztan | | | | | | | Jer | | |
| | | | Guz | Wy | | Ara | | | |
| | | Gaz | Zdobycz | | | As | | | |
| | | | | | | | Bierz | | |

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 33-20:**

Жар, лета, ружа, Ян, клас, лом, жнівень, мора, на, таксіст. Ляснік, ген, жмут, акно, лірык, трава, усе, ньюс, жаль, рамонак.

Узнагароды, **беларускія літаркі на камп'ютарную клавіятуру,** выйгралі **Максім Сянкевіч** і **Лена Рагальская**. Віншуем!

# Дабро нажывалі працай

**(ч. 9)**

І тут мушу падказаць: дык і цёмныя сілы д'ябла маюць сваю моц. Яны таксама могуць чыніць цуды і нават лячыць хворых. І раю кожнаму: мінайце здалёк усялякіх знахароў, шаптуноў, варажэяў і ім падобных. Яны павязаны выключна з цёмнымі сіламі і іх ангеламі. А ведаем і тое, што трон сатаны ніколі не месціцца на небе, а на зямлі. Таму будзьце асцярожнымі.

Па нашых вёсках таксама каціліся розныя сілы як дабра, так і зла. Добрыя людзі, што мірна жылі і шчыра працавалі і з прызваннем хадзілі ў сваю царкву, нешта ўжо нажылі на сваіх гаспадарках, відаць было іхні плён. Мо не так я выразіўся, дык прабачце. Некаторыя руплівейшыя гаспадары ўжо пакуплялі неабходныя сельскія прылады, такія як добры жалезны фабрычны плуг (хаця і нашы здольныя кавалі маглі гэта вырабляць), жалезныя прычапныя бароны, спружыноўкі... А дзядзька Фёдар Млодзян грошай на пакупку малатарні і матора ўспеў назбіраць і ўжо меў гэта купіць, але вайна гэтаму перашкодзіла.

Нашым людзям не было пад сілу лячыцца ў бальніцы, таму многія з іх заўчасна адыходзілі ў вечны спачын. Не было грошай на лячэнне, якое каштавала дорага. І дзядзька Фёдар Млодзян аднойчы захварэў на апендыцыт — запаленне сляпой кішкі. Што рабіць? Толькі шпіталь і хірург можа ўратаваць жыццё. Лёг дзядзька Фёдар у шпіталь у Беластоку, і аперыраваў яго слаўны ў той час хірург Федаровіч, і добра вылечыў. Фёдар ляжаў у шпіталі пяць тыдняў, вельмі добра апекаваўся ім увесь персанал медсясцёр і санітараў. А гэта каштавала, бо апрача сваіх ашчаднасцей Фёдар быў вымушаны прадаць кавалак добрага поля. Купіў яго селянін з Чахоў-Арянскіх Януш Чыквін, бо ў яго вёсці і наваколлі адны амаль пяскі.

Ужо куплялі веласіпеды. І мой дзядзька Ванька купіў ровар нямецкай вытворчасці. Быў ён моцны і лёгкі, здаецца, каштаваў 180 злотых. Дзед Шуль ездзіў на ім аж у самыя Лявіцкія каля Беластока да нашых сваякоў, каб запрасіць іх на вяселле аднаго з маіх дзядзькоў, здаецца, Ванькі. І мой бацька на ім навучыўся язды, бо свайго ровара не меў. А дзед Шуль, яшчэ ў Нямеччыне перад вайной навучыўся ездзіць на веласіпедзе. Але былі і жулікі сярод нашых людзей ды насміхаліся, здзекаваліся над габрэямі ў Орлі. І скора забылі, што пасля бежанства, калі самі тут галадалі і жылі ў нястачы, дык габрэі з Орлі і Бельска першыя працягнулі ім руку помачы і давалі выгадныя, амаль беспрацэнтныя, крэдыты і аказвалі матэрыяльную дапамогу. Але для людзей без сумлення і чалавечнасці гэта не лічылася. А, на жаль, сумны працэс трывае і па сённяшні дзень. Гэта сапраўды сумная справа. І адзін жыхар ад нас, гэта быў так званы «Паўстанец», купіў у аднаго габрэя ў Орлі ў яго магазіне на крэдыт новы ровар нямецкай прадукцыі. Выездзіў яго датла і разбіў, а плаціць за яго і не думаў. Габрэю надакучыла прасіцца, каб той штосьці заплаціў і на канец сказаў: хаця прынясі яго хробалы. І той гэта зрабіў: на плячах адну раму-хробалы занёс у яго магазін і шпурнуў у кутой і голасна зарагатаў.

Якая была міжваенная Польшча, аднак і яна станавілася на ногі і прамысловыя тавары не даражэлі, а былі штораз таннейшыя, хаця б ровары. Польскі ровар «Камінскі», у якім абручы колаў былі выкананы з моцнай драўніны — гэта была б дзіўная на цяперашні час канструкцыя і прадукцыя, а тыя колы былі моцныя і хіба не былі горшыя ад жалезных. Ён каштаваў 80 злотых і быў таксама лёгкі. А нямецкі ровар можна было купіць ужо за 120 злотых. А цэнтнер жыта каштаваў тады 12 злотых. Значыць, намнога больш, чым сягоннняшняя яго цана.



Некаторыя жыхары мелі ўжо радыёпрыёмнікі на навушнікі. Купіў такі першы Арцём Чыквін, а Яшка Грыгарук такое радыё на навушнікі сам сканструяваў, хаця слухаўкі мусіў дзесь раздабыць або купіць. І падумаць: гэты чалавек быў самавукам і нідзе не вучыўся грамаце. Яшка лёгка чытаў па-польску, па-руску, а таксама пісаў на гэтых мовах. А нават пасля вайны вучыў невукаў грамаце на вечаровых курсах у вёсцы Рутка. У той час быў ён ужо партыйным і захапляўся народнай уладай. Усе яго дзеці пакончылі вышэйшыя школы. Яго сын кончыў паспяхова варшаўскую ваенную ВАТ і атрымаў ваеннае званне маёра. Я з ім сябраваў і гэта неацэннае на сённяшні дзень, бо ён пабудаваў дом у нас на новай вуліцы і жыве шчасліва з жонкай. Дзеці жывуць і едуць па новай дарозе, але згодна, як адна сям'я... Хіба і Панас Іванюк купіў такое радыё і ўсе нашы людзі, пазбаўлены навейшых вестак са свету — пачулі іх з тых перадач уладальнікаў новай апаратуры. З гэтых скромных радыёвых пушачак можна было ўначы злавіць і хвалю Масквы. Яны верылі (хаця не ўсе) у тое, што гаварыла ў той час савецкая прапаганда і самі ішлі да гэтых успомненых шчасліўцаў, што мелі радыёпрыёмнікі і на вушы прыкладалі навушнік-слухаўку ды пільна слухалі і захапляліся тым, што разносілася ў эфіры. А ведаем, што гладкі і спрытны язык патрапіць з няпраўды ўчыніць «праўду». Альбо наадварот. І гэта філасофія нічуць не аслабела і дзейнічае, як шкоднае паветра. Каб мець лепшае радыё з батарэйкай і ўжо без слухавак і ўлавіць хвалю з усяго свету, нашым людзям у той час не ставала. Бо такія радыёпрыёмнікі былі дарагія і самы танны і то дзяржаўнай фірмы каштаваў каля 300 злотых. А шыкоўныя апараты каштавалі па 700-800 злотых, а то і больш. А гэта былі апараты высокай якасці і прыгожыя на від. Выраблялі іх розныя прыватныя фірмы ў той слаўнай Вільні. Уладальнікамі былі пераважна багатыя яўрэі. У вёсцы ў бацюшкі Мірона стаяў на стале вялікі радыёпрыёмнік на батарэйку і многія ў яго слухалі перадачы. Аднойчы бацюшка ўключыў Маскву і адтуль прагучала геройская як гром песня: *Если завтра война, если завтра в поход...* Дык дзядзька Янparam, слухаўшы гэта, перахрысціўся і прашаптаў: «О Божа, заўтра вайна». Бацюшка засмяяўся і кажа: «Не бойтесь, это только лишь песнь». А дзядзька нездарма ўстрывожыўся, бо памыліўся толькі на некалькі гадоў.

Усё як быццам ішло к лепшаму і прагрэсіўны Арцём Чыквін пабудаваў сабе вялікі, прыгожы дом пакрыты чарапіцай (гэта не сённяшняя дахоўка). Сам ён — майстар і сталяр, славуты пчалавод і садавод — на малым лічыць панадворку так дакладна і геаметрычна пабудаваў рэшту будынкаў, што хапіла яшчэ месца і на сад ды вуллі з пчоламі. Гэты чалавек у сваім доме адкрыў і прыватную краму, дзе без праблемы можна было купіць неабходныя для сялян прадметы, як гэта кажуць — ад іголкі да літроўкі: можна там было купіць і спіртное. Гэты дом стаіць і сёння, далей ад сялянскіх сядзіб, сярод зелені і мо таму ён не згарэў у час вайны. А калісьці, бо і сам помню, тут навокал раслі магутныя ліпы і вязы, і тут быў рай для птушак.

Але жыццё, як ведаем, не стаіць на месцы, так як жыццё кожнага чалавека. Былі поспехі ў нашым грамадстве і цесная сувязь чалавека к чалавеку. Гэта пазітыўная і хвалебная старонка нашай гісторыі.

Але ж здараліся і адмоўныя з'явы ў нашым грамадстве, і часта нават смешныя. І тут я думаю: галоўным вінаватым гэтай не такой прыемнай з'явы была цяга некаторых людзей (а то і часта пачэсных) да выпіўкі. А ведаем тое: ад водкі — розум кароткі. Таму даходзіла і пераважна ў святочныя дні да сварак і боек, часта з-за малой дробязі. Аднойчы на Турках дзядзька Ванька паспрачаўся з Сідарам (а яны ж блізкія сваякі, прытым вельмі падобныя) і не ведаю, як гэта сталася, што дзядзька Ванька ўцякаў, а Сідар з імпэтам і задавальненнем шпурнуў яму ўслед тоўстым паленам. І палена са свістам паляцела і ўрэзалася ў карак дзядзькі і адкацілася як мячык. Толькі пачуўся дзіўны гук. Але дзядзька надзіва ўтрымаўся на нагах. Значыць, экзамен па фізічнай культуры здаў ён на пяць. І мо таму ў скоры час Ванька жэніцца з Сідаравай унучкай Марыськай. Відаць, Сідар ацаніў моц Ванькавага карку і цела. Хаця маладажоны здаўна любіліся і ім не было чужое гарачае каханне і яго рамантычныя паслядоўнасці. Што ж, любоў многа значыць і сёння, і яна не гасне.

Усе, хто бачыў гэтую сцэну з паленам, дзівавіліся: як гэта можна было ўстаяць на нагах па такім лятаючым падарунку. Былі і іншыя, ужо не такія смешныя гісторыі нашых пачэсных людзей. Аднойчы ў час бойкі на вуліцы ў рух пайшоў жалезны бязмен, лаянкі і крыкі. Аляксандру Лемешу патрапалі каменнем вокны ў хаце. Была і судовая справа, і галоўны закапёршчык адседзеў тры месяцы турмы. І не наракаў, відаць хуліганаў лепш паважалі органы ўлады, чым палітычных вязняў. Таксама паступалі і саветы ў сваіх незлічоных лагерах і турмах у той самы час і пазней.

Былі выпадкі, калі чалавек быў менш слаўны, але пры грашах, дык хуліганы патрабавалі ад яго паўлітроўкі, а калі той не дасць, патрапілі ўчыніць яму нейкае свінства. Усяляк бывала. Але гэтыя ўжо няслаўныя здарэнні, што паніжалі нашу годнасць і гонар, былі рэдкасцю. Але калі біліся, то скора і мірыліся, і не было дзікай помсты. Усё ж, няма дасканалых людзей на зямлі, як калісьці, так і сёння. А гісторыя ідзе сваім ходам і што было — не вернецца. І мой бацька не раз мне казаў: вучыся на чужых памылках. І гэта праўда, і мы іх бачым, ды хутка забываемся. Таму і многа грашым.

У некаторых нашых вёсках была ўжо праведзена камасацыя грунтоў і цераспалосіца стала толькі няслаўнай гісторыяй. Былі гэта вёскі Рутка і Ягаднікі. І як бы там ні было, там пры санацыі лепш і больш справядліва дзялілі зямлю паміж сялян. Не было такога кумаўства, абману, зайздрасці і подласці, як гэта наступіла пасля вайны ў нас, калі рабілі ў нас гэтак званыя калёніі. Тады сялянам пераважна давалі зямельку, як і лугі ў адным месцы і можна было выходзіць на так званы вынас — будавацца на сваёй надзеленай землямерам калёніі ў форме хутара. Нашы панадворкі ў вёсцы былі надта вузкія і непрыдатныя для перспектыўнага далейшага гаспадарання. Некаторыя жыхары ўспомненых вёсак скарысталіся гэтым дабрадзействам. І ў Дубічах-Царкоўных мелі гэта рабіць пры ліквідацыі цераспалосіцы, і мой бацька таксама запісаўся на вынас, але вайна ў гэтым перашкодзіла. Таксама і шашу з Гайнаўкі ў Кляшчэлі мелі класці і быў ужо гатовы план, але і тут вайна перашкодзіла такой карыснай справе і пачыну. Пасля вайны па гэтым плане была праведзена пабудова шашы, якой карыстаемся сёння, але яна ўжо мадэрнізаваная і зроблена на выдатна.

(працяг будзе)

Мікалай ПАНФІЛЮК

# зямля над белай ракой

# Вершы Андрэя Сцепанюка



## 1. зямля

ад стагоддзяў зямля над белай ракой маўчыць
збірае ў свае чорнапясчаныя скібы
памяць кожнага забытага дня
і чорнай як вочы цыганкі ночы

яе цвёрды дыск запоўнены горам
якое ў сваёй невінаватасці нарадзіліся на яе плячах

а дзе збіраецца шчасце

а шчасце збіраецца ў небе
якое з усмешкай сонца глядзіць на ўзаранае поле
і не ўмее зразумець чорнага дыхання лёгкіх
гэтай зямлі

і не відаць канца сусветнай вандроўкі
адзін за другім зацiхаюць сляды
а на іх месца паўстаюць наступныя

мяняюцца толькі ступнякі
а падэшвы робяцца больш цывілізаванымі

і як бы не была парваная і насычаная потам і крывёю
зямля над белай ракой трывае

## 2. краявід

калі над белай ракой разліваецца туман
зацiхае бляск тваіх вачэй
а словы робяцца ціхімі і невыразнымі

краявід над ракой паўтараецца калі вечарэе
раз у дваццаць чатыры гадзіны
на адыходзе дня перад беластоцкай публікай

шугаюць чырвоныя аўтобусы
з тварамі спозненых на жыццё гледачоў
іх сумныя вочы вядуць сваю дарогу ў будучыню
якая жыве ў каляінах нерэальнасці

ніхто не глядзіць у ваду
дзе падстарэлая русалка чакае свайго вызвалення

зачараваны рыбак не бачыць яе
на канцы сваёй вудачкі
і не верыць што хтосьці зможа змяніць
рэчаіснасць яго дзён

вада стаіць і не варушыцца
чакаючы буры якая панясе яе ў іншы канец
чагось што не мае канца

а вочы твае зацiхаюць разам з вадою
у надзеі на першыя ўдары бліскавіцы

## 3. успамін

не ўспамінаецца ўжо нічога

нават вёска ў якую ездзіў у дзяцінстве
і маленькая бабуліная хатка
дзе ў куточку хаваючыся ад чужых вачэй
бабуля гарачай слязой успаміналa мужа

хата зраўнавалася з зямлёю
і астыла ў сваіх сівенькіх сценах
жыццё выляцела з яе разам з мамінай сястрой
якая апошні раз зачыніла дзверы

але гэта не ўспамін — гэта вобраз
з турыстычнай паездкі па сваіх слядах
каранавірус не забіў паху чорнага хлеба
забіла яго памяць — адыходзячая памяць

размаўляю з мінулым толькі ў сне
а можа не размаўляю толькі слухаю
не ведаўшы да канца
ці гэты сон — мой

## 4. дарога

чырвоная пляма ў вачах вызначае дарогу
якая вядзе на магілу вазакоў на бельскіх могілках
ваенных ці вайсковых а можа савецкіх

пляма стаіць у вачах і чакае
калі павернеш галаву яна пакажа дарогу ў Залешаны

там ігумення Кацярына моліцца за закатаваных

па вулічных камянях чутны стукат капыт коней
якія цягнуць вазы поўныя варожасці і здрады

не чуваць толькі галасоў дзяцей
яны схаваліся ў мацярынскіх спадніцах
асцярожна выглядаючы не верачь
што гэта што было будзе канцом усяго
і што не будзе нічога новага і цікавага

што толькі чырвоная пляма ў вачах
будзе паказваць дарогу якая вядзе
на бельскія могілкі

у Залешаны
у Зані
у Шпакі
у забытую памяць

## 5. надзея

у яблычным садзе мы збіралі антонаўкі
якія пахлі свежасцю нашага дзяцінства
голымі рукамі зрывалі яшчэ недаспелыя яблыкі
у якіх не было ніводнага чарвяка

нашы парваныя кашулі не думалі
што праз пяцьдзясят гадоў вернемся ў гэты сад
і не зразумеем што старэюць толькі дрэвы
якіх не высек час

малыя хлопчыкі якіх ніхто не шукаў
і ніхто аб іх не памятаў
толькі гэты коцік са шчырымі вачамі лашчыўся да нас
і чакаў што па-сяброўску адхілім яго самоту

мы гулялі з ім з дзіцячай шчырасцю
а потым узялі сякеру і адрубалі яму яго коцікавую галаву
ён застаўся назаўсёды ў зямлі
пад сцяпанавым плотам

ніхто ніколі не зразумеў
чаму не вырасла там ніводная травінка

пасля пяцідзесяці гадоў калі я здымаў з апошняй яблыні
якая засталася ў яблычным садзе
твае зацiснутае на шыі цела з кішэні
вырвалася пажоўклая картачка з невыразным надпісам
надзея верне нас у сад

## 6. галубы

расстраляных галубоў ніхто не збірае
яны ляжаць на асфальце
у калюжах цёмнай ад жары крыві

забытая яркасць шэрых вачэй
разыходзіцца цёплым даждж ом
зляцеўшым з неба як асалода

галубы не паверылі што можна да іх страляць

падман пікаса які зрабіў з іх сімвал міру
запісаўся ім у галовы
як шрот выстрэленага патрона

на белых вопратках чырвань сэрца
каштуе як настойка
з недачаканага вяселля

галубы гэта не птушкі

## 7. вера

па дарозе ў Іерусалім
Хрыстос прысеў каля паваленага хлява
дзе ад гадоў прагнівала невыкарыстанае сена

далучылі да Яго тыневіцкія дзеткі
з памазанымі носікамі
і змарнелымі ад голаду вачамі

Ты куды ідзеш — спыталі ў Яго
адкуль і куды ці не з Нарвы Ты
і не жыд што хапае дзяцей

і можа ты хочаш схапіць нас
як схапілі і замучылі
Гаўрыілку заблудаўскага

здзіўлены Хрыстос доўга не адказваў
а толькі глядзеў
зацікаўленымі вачамі

над вёскай пачынала змяркаць
а цені забітых у войны вяскоўцаў
зляталіся на вячэру

у вокнах загараліся свечкі
якіх полымя асвятляла вулічныя камяні
а ў прыцемках завылі вясковыя сабакі

дзеткам нецікавым быў ужо невядомы мужчына
за сценамі хат ішоў пах хлеба і малака
яны разбегліся не чакаўшы яго адказу

на хвіліну ўсё замерла
нават вароны перасталі сварыцца
за свае месцы на дрэвах

за клунямі ўспыхнуў вялікі агонь
вёска гарэла
але пажару не бачыў ніхто

Хрыстос пайшоў у Іерусалім



# Наша роднае Падляшша

Пішу гэты артыкул у «Ніву» ў апошні дзень майго адпачынку ад працы. Тры тыдні мінула як адзін дзень і таму з любасцю ўспамінаю той свабодны час. Нездарма мой сардэчны сябар Мірэк Кавальскі, вакаліст беларускага гурта «Лідар» у адным са сваіх найбольшых хітоў «Вёсачка» спявае:

«За гарамі, за даламі вёсачка,
Мы туды з табой паедзем мілая,
Пазабудзем як сварыліся тады,
Хай усё ідзе на лес сухі.
У царкве вясковай
Шлюб з табой мы бралі».

**З ШУМЛІВАГА ГОРАДА НА ПАДЛЯШСКУЮ ВЁСКУ**

Калі мы з жонкай стомленыя шумным горадам, дык пакуемся і едзем з Беластока на нашы родныя падляшскія вёскі. У родных мясцінах пры цяжкай працы на свежым паветры ды здаровай ежы знаходзім адпачынак і душэўны спакой. Тут здаровая садавіна і агародніна з матчынага і бацькоўскага агарода і саду. Тут чалавек знаходзіць анклаў свайго спакою, якога зусім няма ў шумным горадзе. На вёсцы чалавек забывае пра свае клопаты і турботы. Тут жывуць простыя шчырыя людзі, якія ведаюць нас з маленства, тут гучыць родная падляшская мова, тут найпрыгажэй спяваюць птушкі і цвыркуны. На свежым паветры нават лепш смакуюць абед і вячэра.

**MADE IN PODLASZE**

Няма смачнейшага сняданка як яечня спечаная з яек ад курак, якія гадуе мая мама, а да таго з цыбуляй і смачнымі памідорамі з агарода маёй цешчы. Няма нічога смачнейшага як свойскі хлеб, які зараз пячэ ў вясковай печы цешча маёй сяброўкі. Ён смакам і пахам нагадвае хлеб, які калісьці пякла мая бабуля Манька Саймасюк-Буйнюк (1920-2008). Няма нічога здаравейшага і мацнейшага як самагонка з Белавежскай пушчы, якую я калісьці піў з сябрамі з Падляшша з шасці вечара да шасці раніцы ў інтэрнаце па вуліцы Кракаўскай у Беластоку. Няма нічога лепшага і здаравейшага як малако ад бацькавай казы. Няма нічога карыснейшага для здароўя як вада з бацькоўскага калодзежа. Нішто так добра не лечыць, як зёлкі сабраныя на нашай роднай падляшскай зямлі. Няма нічога смачнейшага і здаравейшага, як мёд дзядзькі Толіка са Стральцоў. Няма нічога прыгажэйшага, як народныя падляшскія песні ў выкананні гурта «Жэмэрва» з нашага роднага Падляшша. Няма большага шчасця, як размаўляць на нашай роднай падляшскай мове з чалавекам з Падляшша. Няма цікавейшай беларускай газеты на свеце, як наша беластоцкая «Ніва». Ніякі лаўрэат літаратурнай Нобелеўскай прэміі душэўнасцю не дараўноўвае такім падляшскім народным паэтам і пісьменнікам як Аркадзь Леўшук з Цiванюкоў, Уладзімір Сасна і Андрэй Грайко з Пашкоўшчыны, Мікола Панфілюк, Дзядзька Квас, Мікола Лук'янюк, Вольга Анацік з Ягуштова, мой дзед Васіль Міранчук з Рудут. Ніякі сусветнай славы гурт не дараўноўвае нашым беларускім калектывам з Падляшша, такім як «АС», «Прымакі», «Лідар», «Зорка», «Маланка», «Брага», «Ріма», «Кардон», «Гоман», «Ilo & Friends». Ніякая сусветная міс не дараўноўвае сваёй прыгажосцю, мудрасцю і працавітасцю нашым падляшскім дзяўчатам, напрыклад, маёй жонцы...

**ТУТ ДУШОЮ СПАЧЫВАЮ...**

Пасля цяжкай працы на вёсцы найбольшую раскошу дастаўляе халоднае піўцо або марожанае проста з халадзільніка. Тут час плыве вальней і менавіта на вёсцы заўсёды знаходзім найбольш часу, каб шчыра пагутарыць са сваімі самымі блізкімі людзьмі: бацькамі, сёстрамі, братамі, бабулямі ці дзядулямі. На вёсцы людзі больш шчаслівыя і даўжэй жывуць, чым гараджане. Мой дзядуля кажа, што ён самы шчаслівы чалавек, таму што жыве і хоча памерці ў вёсцы, у якой нарадзіўся. Ён родны кут не памяняў бы на найпрыгажэйшае месца ў свеце. Нездарма Якуб Колас сваю славутую паэму «Новая зямля» пачаў са слоў:

«Мой родны кут, як ты мне мілы!..
Забыць цябе не маю сілы!
Не раз, утомлены дарогай,
Жыццём вясны мае убогай,
К табе я ў думках залятаю
І там душою спачываю».

Чытаючы «Новую зямлю» Якуба Коласа, «Палескую хроніку» Івана Мележа ці польскі раман «Хлопі» Уладыслава Рэйманта або кнігі Гальдара Лякснэса, Франса Эміля Сіланпяі, я бачу свае родныя падляшскія мясціны.

**МОЙ БЕЛАСТОЦКІ КРАЙ...**

«Прымакі» з Міхалова спяваюць:

«Мой Беластоцкі край,
З табою звязаны мой лёс і доля».

Едучы з Беластока, то ад Рыбалаў пад самую польска-беларускую мяжу пачынаецца наш родны падляшскі свет. Падляшша цэняць нават жыхары Варшавы, Сілезіі ці заходняй Польшчы, якія купляюць старыя хаты на нашых падляшскіх вёсках.

**Юрка БУЙНЮК**

# http://sos.belngo.info




Час, які прайшоў ад правядзення апошніх прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі, інакш як трывожным назваць нельга. Нягледзячы на тое, што народны ўздым супраць фальсіфікацый і хлусні пераўзышоў чаканні, улада засталася ў руках таго ж самага Аляксандра Лукашэнкі. А гэта значыць, што адвольным затрыманням, арыштам, збіццю яшчэ далёка не канец. І тут вельмі важна, нават пры змяншэнні пратэстаў, мець магчымасць аказаць дапамогу пакрыўджаным, па меншай меры — юрыдычную.

Яшчэ да ўсіх апошніх узрушэнняў у Беларусі пачаў працаваць сайт „Заставайся ў бяспецы", які месціцца ў інтэрнэце па адрасе **http://sos.belngo.info.** У адрозненні ад іншых некалькіх дзесяткаў незалежных сайтаў, якія апошнім часам былі заблакаваны лукашэнкаўскімі ўладамі, гэты працягвае адкрывацца.

Галоўная старонка сайта выглядае даволі проста, але і прывабна. Напэўна такое ўражанне стварае аранжавы колер, які выкарыстаны для яго афармлення. „Праваабарончыя арганізацыі сабралі разам свае найлепшыя парады і памяткі, каб вы ведалі пра свае правы, маглі падрыхтавацца да мірных сходаў, абараніць сваю прыватную інфармацыю і ведаць, дзе шукаць дапамогі, калі яна вам спатрэбіцца", — паведамляецца ўверсе цэлага выяўлення побач з фотаздымкам ратавальнага круга.

Ніжэй ідуць магчымыя пытанні ад тых людзей, якія сталі ахвярамі затрыманняў падчас мірных акцый. „Мяне затрымалі. Што рабіць? — Адрасу паведамі праваабаронцам: прозвішча, імя, імя па бацьку; месца затрымання (трансляцыя геалакацыі); хто затрымаў; нумар тэлефона блізкіх; інваліднасць/хвароба, патрэба ў леках; грамадзянства (калі адрознае ад беларускага)", — апісваюць схему распаведу пра затрымангага праваабаронцы. Там жа даюцца кантакты, гэта значыць, нумары тэлефонаў і электроннай пошты, на якія трэба таксама дасылаць паведамленні аб затрыманні ці арышце. Таксама з галоўнай старонкі сайта можна даведацца пра некаторыя праваабарончыя арганізацыі і магчымасць нешта іх праінфармаваць пра сябе ў выпадку такой неабходнасці.

Выйсці на іншыя рубрыкі сайта месцяцца ўверсе цэлага выяўлення, але да гэтых рубрык можна перайсці напросту гартаючы галоўную старонку. Так мы можам пазнаёміцца з інфармацыяй, як паводзіць сябе на допыце ці пры вобшуку; што рабіць, калі затрымалі блізкіх і родных людзей; як дапамагчы, фіксуючы парушэнні правоў чалавека.

Адна з апошніх рубрык — „Назіранне за выбарамі" — падаецца ўжо не надта актуальнай. Насамрэч, яна каштоўная сведчаннем аб тым, што адвольныя арышты ў Беларусі звязаныя выключна з палітыкай, а не з нейкімі праявамі супрацьпраўных дзеянняў асобных простых грамадзян. І менавіта ў палітыцы крыюцца прычыны расправы над іншадумцамі. Таму карысны будзе парада, якую даюць праваабаронцы ў самым нізе агульнага выяўлення: „Веданне сваіх правоў і свабодаў — першы крок да іх абароны. Азнаёмцеся з памяткамі праваабарончых арганізацый, каб у выпадках, якія, мы спадзяемся, не здарацца, ведаць, як сябе паводзіць і дзе шукаць дапамогі. Раздрукуйце і трымайце пры сабе дакумент, які рэгламентуе правілы ўнутранага распарадку месцаў адбывання адміністрацыйнага арышту і ўтрымлівае пералік рэчаў, якія можна трымаць пры сабе і перадаваць".

**Аляксандр ЯКІМЮК**

**Дата з Календара**



# 75 гадоў з дня нараджэння Рыгора СЕМАШКЕВІЧА

Беларускі паэт, празаік, літаратуразнавец, крытык нарадзіўся 12 верасня 1945 г. у вёсцы Дамашы Маладзечанскага раёна. Век гэтага таленавітага беларускага творцы быў, на жаль, вельмі кароткі, а яго біяграфія амаль невядомая шырокаму колу.

Паходзіў Рыгор Семашкевіч з сялянскай сям'і, бацькоў звалі Міхаіл Піліпавіч і Алена Дзмітрыеўна. Маці працавала даяркай, бацька — у зелянгасе. У сям'і было трое дзяцей. У 1961 г. Семашкевіч скончыў Лебедзеўскую сярэднюю школу Маладзечанскага раёна. Далей паступіў на філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, які скончыў у 1966 годзе. Пасля атрымання вышэйшай адукацыі ў 1966-1967 гг. працаваў дырэктарам Малінаўскай васьмігадовай школы Смаргонскага раёна. Вёска Малінавая, што ў Вішнеўскім сельсавеце, раней называлася Свінка і была перайменавана камуністычнымі ўладамі ў 1964 г.

У 1967 г. Рыгор Семашкевіч паступіў у аспірантуру на кафедры беларускай літаратуры БДУ, якую скончыў у 1969 г. У тым жа годзе стаў сябрам Саюза пісьменнікаў БССР. З 1970 г. Семашкевіч, атрымаўшы ступень кандыдата філалагічных навук, працаваў выкладчыкам, з 1976 г. — старэйшым выкладчыкам, потым дацэнтам Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Чытаў студэнтам лекцыі па гісторыі беларускай літаратуры да 1917 г., вёў спецкурс па сучаснай беларускай літаратуры, кіраваў курсавымі і дыпломнымі працамі.

Першыя вершы Семашкевіча з'явіліся ў друку ў 1961 годзе, калі ён яшчэ быў вучнем дзясятага класа. Пазней яго творы друкаваліся ў зборніку „Дзень паэзіі", часопісах „Маладосць", „Полымя" і іншых перыядычных выданнях. Рыгор Семашкевіч аўтар зборнікаў вершаў „Леснічоўка" (1968), „Субота" (1973), аповесці „Бацька ў калаўроце" (1976), кнігі „Лічыла дні зязюля" (вершы, аповесці, эсэ, 1987). Сярод іншага напісаў літаратуразнаўчыя працы „Браніслаў Эпімах-Шыпіла" (1968) і „Беларускі літаратурна-грамадскі рух у Пецярбурзе" (1971), кнігу „Выпрабаванне любоўю" (эсэ, артыкулы, 1982).

Рыгор Семашкевіч трагічна загінуў 11 чэрвеня 1982 г. у Мінску на 37-м годзе жыцця. Пахаваны на Паўночных могілках беларускай сталіцы. Вось якім дапісам адгукнуўся на смерць творцы паэт Рыгор Барадулін: „Рыгор Семашкевіч умеў як ніхто іншы мысліць маштабна, мысліць гістарычнымі пластамі, мысліць усім комплексам культуры. Ён быў інтэлектуальнай, ён быў духоўнай адзінкай, асобай, якіх так не стае нашай літаратуры, нашай культуры. Як у свой час, у нашым пакаленні Міхась Стральцоў, так у пакаленні Яўгеніі Янішчыц, Алеся Жука, Вольгі Іпатавай, Юркі Голуба, Рыгор Семашкевіч ствараў атмасферу разумення прадстаўнікамі свайго пакалення сябе ў часе, у гісторыі, разумення сваёй неабходнасці ў сучаснасці, у няспыннасці руху. Дзякуючы Рыгору Семашкевічу пакаленню памянёных паэтаў і празаікаў лягчэй было пазбыцца вучнёўства, роздумнай замаруджанасці, а паспяшацца стаць творцамі, якія нясуць адказнасць за свой час, за сваю эпоху, за пасляваенную ў год перамогі рунь. Ён быў надзвычай скупы на пахвалу і сам рашуча не цярпеў якіх бы там ні было кампліментаў у свой адрас, не дазваляў, каб яго пахлопваў па плячы нават прыжыццёвы геній. У нашай роднай літаратуры і культуры шмат апостальскіх фігур. Рыгор Семашкевіч з гэтай кагорты!".

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

## Зубры ходзяць у Лазовым

Гасцявалі ў мяне брат Міхась з жонкай Крыстынай. Жывуць яны ў Шчытне. 30 жніўня гэтага года ў сонечную нядзелю пасля поўдня мы паехалі на прасторныя лугі над рэчкай Баброўкай у наваколлі Лазовага (малое паселішча Лазовае — далёкі прысёлак Новага Ляўкова Нараўчанскай гміны на ўскраіне сасновага лесу). Я ведаю, што тут знайшлі сабе прытулак зубры, якія жывуць на свабодзе. Мне вядомы месцы іх прабывання перш-наперш зімой, калі цэлым статкам прыходзяць пажывіцца да стагоў. Братавая вельмі ж хацела іх угледзець.

Калі мы былі каля даволі высокай вышкі ля стога з сёлетнім свежым сенам, пачалі разглядацца навокал. Брат узабраўся па моцнай, салілднай драбіне з поручнямі на вышку (на здымку) і паглядзеў цераз бінокль. Ён першы ўбачыў вялікага зубра, які выйшаў з густога цёмнага лесу на пакошаны надрэчны луг.

Зубра без бінокля ўбачыла Крыстына і спалохалася. Такога жывога вялікага звера яна яшчэ ніколі не бачыла.



Нічым непакоены стары аграмадны зубр ішоў у напрамку бабровых ставоў і рэчкі, з якой зімой і летам піў ваду. Яго, мабыць, маладыя і ўжо дужыя зубры прагналі са статка, каб не замінаў. Хадзіў ён па лесе і лугах сам адзін. Такія самотныя самцы, казалі старэйшыя людзі, бываюць небяспечныя і ад іх трэба трымацца здалёк. Ён тым часам пераскочыў цераз невялікі равок, акайманы рэдкімі кусцікамі, ды ішоў у нашым напрамку. Мы хутка падаліся да дарогі і ад'ехалі. Караля пушчы (у нашай навалаяўкоўскай ваколіцы Белавежская пушча) мы пабачылі дый і хопіць. Будзе пра што расказаць блізкім і далёкім знаёмым. Вось такая наша летняя прыгода.

Тэкст і фота **Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**

## Там, дзе ўсё больш чытаюць „Ніву"

У Нараўчанскай гміне Гайнаўскага павета беларускі штотыднёвік чытаюць жыхары дваццаці вёсак і вёсачак. Да дзесяці сёл ездзіў я ў нядзелю, 6 верасня гэтага года. Між іншым, першы раз быў у Баравых. У той дзень наведаў з „Нівай" (№№ 35 і 36) Плянту, Семяноўку, Баб'ю Гару, Семянкоўшчыну (Мядзвядзі), Баравыя, Прэнты, Забрады, Альхоўку, Міклашэва і Нараўку. Беларускую газету атрымалі, між іншым, солтысы Баб'яй Гары і Семяноўкі ды працаўніцы Асяродка экалагічнай адукацыі ў Семяноўцы. Ужо доўгі час найбольш чытачоў „Нівы" у Новым Ляўкове і Плянце.

Мае допісы — у адным вышэйзгаданым нумары было іх сем — спадабаліся чытачкам Веры Клімюк з Плянты і Яўгеніі Богуш з Міклашэва. Вельмі дакладна чытала іх Галіна Бірыцкая з Плянты (яна пазваніла па тэлефоне адносна адной маёй інфармацыі).

Варта дадаць, што я меў 20 экзэмпляраў роднага часопіса № 36 ад 6 верасня гэтага года (10 экзэмпляраў я заказаў у лістаношы і ён прывёз мне іх з Гайнаўкі). Усе 20 тэрмінова даручаны чытачам. У распаўсюджванні „Нівы" дапамагае мне мой гаўнаўскі калега-шафёр. Мы разам працавалі ў аддзеле „Газеты вспулчэснай" у Гайнаўцы. Зараз маем намер паехаць з „Нівай" і ў Нарваўскую гміну. Я ў школе ў Нарве працаваў настаўнікам. Там сустракаю сваіх вучняў. **(яц)**



## Па грыбы

Зараз у лясах Нараўчанскай гміны выраслі, між іншым, баравікі, бабкі, масля́кі і кані (калісьці мае бацькі, якія жылі ў Новым Ляўкове, называлі іх куры, курыцы, а цяпер маладыя новаляўкоўцы гэтай назвы ўжо не ведаюць). У пачатку верасня пападаў дождж і пачалі расці грыбы. Грыбнікі збіралі маслякі ў мяшаным лесе каля вёскі Плянта, а кані — каля Лешукоў. 4 верасня гэтых апошніх найбольш прывезлі дадому Наталька Харкевіч і Кастусь Целушэцкі з Новага Ляўкова.

Тэкст і фота **Янкі Целушэцкага**

## 13.09 — 19.09

**(22.03. — 20.04.)** З'яднаеш да сябе людзей, здабудзеш папулярнасць. Кампанейскія сустрэчы. Калі табе не падабаецца занятак, паспрабуй яго змяніць 16-18.09. 14-18.09. вырашыш некалькі ключавых спраў. Будзеш рашучы, але і гнуткі. З 17.09. (да 21.09.) прафесійныя абавязкі могуць быць у калізіі з сямейным жыццём. Нічога не прыспешвай. Дбай аб пазваночнік.

**(21.04. — 21.05.)** Зможаш змяніць свет, а прынамсі свой спосаб мышлення. 13-18.09. будзеш выбуховы ў пачуццёвых справах. Стань майстрам у кіберпрасторы, наладжвай кантакты. Вялікае ажыўленне і ў інтарэсах, асабліва ў Быкоў з уласнай фірмай. Удачы ў фінансах — узнагарода за зацісканне пояса ў апошнія месяцы. Будзеш ласы на кампліменты і абяцанні. 13-17.09. можа стаць кашмарам прыгожа пачатае рандэву.

**(22.05. — 22.06.)** Многа навучышся і даведаешся, не будзе для цябе цяжкіх спраў. 16-18.09. змерышся з тым, што да гэтай пары здавалася быць цяжкім. 13-17.09. не бяры пазык, не купляй нічога ў крэдыт. Добрая форма і дасканалы настрой. Помсціцца на табе непамяркоўнасць у харчаванні (боль жывата). Прыглядзься сваёй скуры.

**(23.06. — 23.07.)** Хуткі тэмп здарэнняў і моцныя эмоцыі. 14-18.09. будзеш кахаць і ненавідзець. 18.09. можаш наладзіць знаёмствы, якія прынясуць табе многа карысці. Не шкадуй грошай на распешчванне блізкіх. Ашчаджай сілы. Сонца ўсё яшчэ грэе, прымяняй фільтры.

**(24.07. — 23.08.)** Не раздражняй партнёра фліртамі. Ільвы з III дэкады будуць прыцягваць да сябе агрэсіўных асоб. Вучышся гаспадарлівасці. Знойдзеш спосаб, каб больш засталося ў тваім кашальку. 12-14.09. убачыш перад сабой новыя фінансавыя магчымасці. 13-17.09. найлепшыя дні на рэгістрацыю фірмы — прынясе яна хуткі прыбытак. Але ў гэтыя дні не раскідвайся грашыма. Дай адпачыць вачам.

**(24.08. — 23.09.)** Спакой і задавальненне жыццём. Зрабі кантрольныя медабследаванні. Пачнеш шукаць братняй душы і ў інтэрнэце, што можа аказацца трапным выбарам 13-17.09. 13-17.09. праводзь змены, з якімі даўжэйшы час ужо носішся. 12-13.09. справішся з рознымі перашкодамі. Будзеш недаверлівы. Парайся ў неканвенцыянальных лекараў.

**(24.09. — 23.10.)** Час поўны творчай актыўнасці. Твае задумы спадабаюцца і прынясуць прыбытак. Не паводзь сябе лішне раскавана, бо 13-17.09. можаш перакрочыць меры і давесці нават да скандалу. Запішыся на якіесьці курсы, новыя веды неўзабаве выкарыстаеш. 16-18.09. яшчэ раз абдумай стратэгію. Можа, некаторыя задумы варта адкінуць, не брысці ў тое, што не мае шанцаў. 16-18.09. правядзі ачышчальную курацыю.

**(24.10. — 22.11.)** Твае справы пойдуць добра. Выйдзеш спраўна з-пад усялякіх турбот. Скарпіён у пары няхай зважае — 13-17.09. каля яго партнёра будзе круціцца хтосьці, няхай не будзе несусветнай буры! 13-17.09. для асоб з III дэкады: вялікія шанцы, але будзе гэта патрабаваць адвагі і пастаўлення ўсяго на адну карту. 16-18.09. у тваёй фірме будзе дробязны і цяжкі кантроль, можа канкурэнцыя зрабіла данос! Грошай хопіць, але падумай аб ашчаднасці (26-30.09. непрадбачаныя выдаткі). Не займайся рызыкоўным спортам.

**(23.11. — 22.12.)** Справы ва ўстановах і судах пойдуць па тваёй думцы. 16-18.09. адкрыеш тое, што сапраўды хацеў бы ты рабіць. 14-18.09. адчуеш сябе адным. Але 14-18.09. будзеш устойлівым на ўсе спробы аказання на цябе ўплываў і эмацыянальнага шантажу. Не перакідай на працы работы і адказнасці на іншых — 13-17.09. гэтая мадэль паводзін не спрацуе ў выпадку чыноўнікаў і прадстаўнікоў улады.

**(23.12. — 20.01.)** 13-17.09. зразумееш штосьці важнае. На працы добры час. Але і зайздрасць супрацоўнікаў. Дзякуючы павышэнню будзеш мець грошы на рамонт ці іншае. 16-18.09. разгляньця за заняткам, які паможа табе падзарабіць. Але ж і 16-18.09. не прымай непрадуманых рашэнняў.

**(21.01. — 19.02.)** Пачнеш новы раздзел жыцця. Зробленыя грошы з прыемнасцю расходуеш. Будзеш здабываць веды, знаёміцца. 16-18.09. будзеш гатовы на новую сувязь. На працы працяг задум. Не спрачайся з шэфам і адчакай, яго нерэальныя задумы мінуць пасля 17.09. Калі ты з II дэкады 13-17.09. схочацца табе паэксперыментаваць, што неабавязкова пойдзе табе к дабру.

**(20.02. — 21.03.)** Будзеш майстрам у рассакрэчванні. Але 14-18.09. сам не трап у штосьці, чаго ўвогуле не хочаш. Турботы і неспакой будзе рассяваць квінкунс Венеры. Цалкам новую задуму на самога сябе падсуне табе Уран. 13-19.09. зоркі падказваюць, што сваю палавінку вінаваціць можаш толькі ў працагалізме. З 16-18.09. думай аб будучыні, сваю кар'еру можаш пераставіць на новыя пуці. 16-18.09. суцішся, пазбудзешся напружання, стрэсу, кепскіх эмоцый.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

## Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеных згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — пагаворку.

1. папулярная кашэчая лексічная адзінка = 9 _ 8 _ 7 _;
2. расійскі абласны горад між Тамбовам і Самарай = 1 _ 12 _ 11 _ 13 _ 14 _;
3. шахматны баец на перадавой = 17 _ 19_ 20 _ 15 _ 16 _;
4. напрыклад, анаконда = 6 _ 5 _ 3 _ 4 _;
5. баявы кліч чырвонаармейца = 10 _ 2 _ 18 _.

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
| | 7 | 8 | 9 | 10 | | 11 | 12 |
| 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 |

**Адказ на адгаданку з 33 нумара**

Батый, вяз, дзевер, дзед, лой, неба, нюх, сені, ствол, Ясы.

Рашэнне: **Свет не без добрых людзей, дый свінота не звялася**.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Мірослава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".

**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 693 70 00 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 000 egz.

# Яшчэ пра шкотаў і... Венграў

**Баляслаў Грабінскі, ураджэнец Урачыншчыны на Сакольшчыне, так пісаў у сваіх мемуарах: «Паўночная Сакольшчына была падзелена вузкаю палоскаю лесу на заходнюю ды ўсходнюю часткі. Лес — шматок вялікай Гарадзенскай пушчы — захаваў значэнне падзяляльніка прасторы пушчы на заходнюю ды ўсходнюю часткі, якія гістарычна развіваліся ў крыху адменных абставінах. Відавочна, Горадня была цэнтрам для гэтых прастораў, бо запушчанамі зваліся тыя, хто жыў на захад ад пушчы, далей ад Горадні. Хаця ад пушчы засталося няшмат, назоў Запушча пертрываў аж да пачатку XX стагоддзя, як і назоў Шкацёў, які запушчане ўжывалі для тых, хто жыў на ўсход ад пушчы...».**


Франтон касцёла Пятра з Альканбары і Антонія Падуянскага, дзе ў царскі час была царква



Фрагмент даўняга плана горада Венграва

Адкуль жа магло ўзяцца тое *шкацё*, якая этымалогія гэтай асаблівай назвы? Не ўдалося мне знайсці нейкіх крыніц, якія тлумачылі б такую этымалогію. Інтуітыўны падказ падае прысутны ў беларускай мове паланізм; Вікіпедыя: «Шкоты, Шоты — у беларускіх і польскіх крыніцах XVI-XVII стагоддзяў назва шатландскіх іміграантаў, аселых у Рэчы Паспалітай». Дзе Шатландыя, дзе Сакольшчына, што ж тут могуць яны, так адлеглыя, мець супольнае? «Яшчэ ў 1503 годзе Пётркаўскі сейм разглядаў праект пасялення шатландскіх каланістаў у літоўскіх замках на Дняпры, спустошаных пад час вайны Маскоўскай дзяржавы з Вялікім Княствам Літоўскім 1500-1503 гадоў. Пазней шатландцы з'яўляюцца ў ВКЛ і як наёмнікі ў войску, і як мірныя дробныя гандляры. У апошняй якасці з 1563 года сеймавыя канстытуцыі згадваюць іх як сур'ёзных канкурэнтаў мясцоваму купецтву і абкладаюць дадатковымі падаткамі. Нягледзячы на скаргі і пераслед, шкоты хутка амаль манапалізавалі гандаль цэлымі катэгорыямі тавараў, вядомымі як «речи шкоцкие»: ручнікі і рукавіцы, пацеркі і бялілы, венікі і нажы, грабяні і ніткі, іголкі, напарсткі і панчохі і г.д. Пасяленне шкотаў у Рэчы Паспалітай набыло такі размах і вядомасць, што англійскі драматург Джон Уэбстэр пісаў у п'есе «Белы д'ябал» (1610) пра «сорак тысяч шатландскіх гандляроў у Польшчы». У 1583 годзе пад час паломніцтва ў Палесціну Мікалай Крыштоф Радзівіл «Сіротка» пісаў пра ўбачаных ім у Сірыі вулічных гандляроў-друзаў, што яны «як нашы шкоты ў корабах розныя дробныя рэчы для продажу носяць па вуліцах». Адным з найбольш вядомых прафесараў філасофіі Віленскага ўніверсітэта ў XVI стагоддзі (1570-1575) быў вядомы езуіт з Шатландыі Джон Хэй (1546-1607). Медны шатландскі пэні з 1640-х стаў першым прадстаўніком меднага манетнага абарачэння на тэрыторыі Беларусі».

І далей: «З'яўляючыся кальвіністамі па веравызнанні, шкоты пераважна сяліліся ў гарадах і мястэчках, якія належалі літоўскім магнатам-кальвіністам. Асабліва вялікія калоніі шкотаў у XVII стагоддзі існавалі ў рэзідэнцыях кальвінісцкай галіны Радзівілаў — Слуцку і Кейданах. Паводле ўспамінаў шкота П. Гордана, Януш Радзівіл і яго сын Багуслаў «мелі кампанію цалкам ці пераважна з шатландцаў». Некаторыя з іх пры фундатарстве Радзівілаў займаліся навукай і мастацтвам; напрыклад, Джон Джонстан выдаў у 1665 годзе ў Амстэрдаме кнігу «Thaumatographia Naturalis», прысвечаную Янушу і Багуславу Радзівілам. У войнах Рэчы Паспалітай з Расіяй шкоты ўдзельнічалі як наёмнікі з абодвух бакоў, часам па некалькі разоў пераходзячы да праціўніка. Вялікая колькасць шкотаў з войска шведскага генерала Горна трапіла ў палон да літоўскага рэферэндара Аляксандра Гасеўскага пры заняцці ім крэпасці Белай на Смаленшчыне ў 1610 годзе. Пры асадзе Смаленска ў 1634 годзе пад камандай апошняга знаходзілася шатландская драгунская харугва (200 чалавек). Паступова шкоты асімілявáліся мясцовым насельніцтвам, прымалі традыцыйныя беларускія імёны і прозвішчы».

Гэта так агульна, пра нашу Сакольшчыну, ці шырэй, Беласточчыну, асаблівай мовы там няма. Найперш на тэрыторыю Рэчы Паспалітай выхадцы з Шатландыі з'явіліся ўжо ў Сярэдневякоўі, у Гданьск і Каралевец, рассяліліся па цэлай Усходняй Прусіі, а адтуль жа рукою да нас падаць... І можна глянуць крыху навокал, каб пабачыць імігранцкія гнёзды ў недалёкіх магнацкіх уладаннях, адкуль яны пранікалі і ў глыбейшую глыбінку... Напрыклад, уладальнік Даўспуды каля Сувалкаў, Людвік Міхал Пац запрасіў у сваю тамашнюю маёмасць паўтысячы шкотаў. Антон Тызенгаўз, які разварушыў мануфактурную вытворчасць у Гродне і наваколлі, таксама не цураўся замежных спецыялістаў, напрыклад, па вырабе сукна. На схіле XVIII стагоддзяў у Рэч Паспалітую прыбывалі шатландскія спецыялісты. Вытворцы тканін, земляробы, млынары прычыняліся да мадэрнізацыі мясцовай гаспадаркі. Шкоты ўводзілі пладазмен, папулярызавалі вырошчванне бульбы, гадавалі коней і авечак. Таксама стваралі мануфактуры па перапрацоўцы сельскагаспадарчай сыравіны. І дзесьці ў той час тое *шкацё* магло трапіць і ў *дапушчанскую* Гарадзеншчыну...

Возьмем, для прыкладу, згаданых коней, а ў прыватнасці славутую сакольскую пароду. Вікіпедыя: «Koń sokólski — rasa koni zimnokrwistych, odmiana lokalna polskiego konia zimnokrwistego. Jest to stosunkowo młoda rasa, znana od około 100 lat, pochodząca z Polski. Rozwinęła się wskutek krzyżówek między belgijskimi końmi pociągowymi, ardenami, norfolk roadsteranu, dole gudbrandsdalami i anglonormanami. W rezultacie otrzymano bardzo wszechstronnego, silnego, lecz niezbyt ciężkiego konia, nadającego się do pracy w zaprzęgu i w polu». Тут столькі брытанскай лексікі, што само па сабе наклікае здагадку пра вывад пароды іміграантамі з-за Паўночнага мора. Яшчэ раз Баляслаў Грабінскі: «Блізкасць прускае граніцы таксама мела ўплыў на эканоміку гэтых раёнаў. Увосень прускія купцы куплялі ўпасеных валоў і добрых жарабят на мяса, што спрыяла гадоўлі коней. Мела мяжа і адмоўныя ўплывы. У другой палове XIX стагоддзя развінулася тут арганізаванае канакрадства, якое перапрывала, можа ў меншых памерах, аж да Першай сусветнай вайны. Крадзеных коней пераводзілі праз Аўгустоўскую пушчу ў Прусію. Квітнела таксама і кантрабанда. Начамі — не дарогамі, а межамі і граніцамі ў полі паміж вёсак — ішло некалькі чалавек крадком адзін за другім, нагружаныя таварам. Першы праваднік добра ведаў дарогу і заводзіў у мястэчку да жыда, які трымаў кантакт з прускімі гандлярамі. Тавар быў розны. Шмат шмуглявалі тэкстыльных матэрыялаў... Паўны час была папулярная пруская гарэлка *Аквіта* ў малых дзеравяных бочачках...». Вось і тыя, згадваныя Вікіпедыяй, нашчадкі шатландскіх дробных гандляроў...

У Рэчы Паспалітай некаторыя шатландцы дабіваліся высокіх грамадскіх пазіцый. Якуб Кабрун, патомак шатландскіх іміграантаў, быў на зломе XVIII і XIX стагоддзяў найбагацейшым гданьшчанінам, заснаваў тамашні гарадскі тэатр. Таксама Джэймс Мары ў XVII стагоддзі быў арганізатарам польскага ваеннага суднабудавання. У тым жа стагоддзі Аляксандр Чальмер быў прэзідэнтам Варшавы... Ды і ў Венграве, пра які на гэтых старонках згадвалася ў апошні час, былі яны ў ліку гарадской знаці. У Венграў запрасіў шкотаў князь Багуслаў Радзівіл у палове таго ж XVII стагоддзя. Быў гэта час, калі ў Еўропу вылілася хваля шатландскіх бежанцаў ад міжусобнай вайны на брытанскіх астравах. У 1664 годзе Венграў пераходзіць у рукі Красінскіх, якія з'яўляліся старонікамі контррэфармацыі. Горад пакідаюць пратэстанты, на іх месца з'яўляюцца яўрэі, якія зоймуцца такой жа дзейнасцю, якою раней займалася *шкацё*. Венграўскія яўрэі прайшлі такую ж самую дарогу, як і іх аднаверцы ў іншых гарадах. Большасць іх завяршыла побыт на землях Рэчы Паспалітай у недалёкай Трэблінцы...

Слоў пару яшчэ пра праваслаўе ў Венграве. У апошнім матэрыяле згадваўся я, што не захаваліся дакументальныя памяткі пра вернікаў гэтага абраду ў Венграве. Але вось, у міжчасе, заглянуў я ў *Каталіцкую энцыклапедыю*, а там такая згадка: «Funkcjonująca tu cerkiew obrządku wschodniego została zniszczona w okresie reformacji...». Значыць, праваслаўе ўсё ж такі было прысутнае ў Венграве мабыць з самога пачатку горада. А той пачатак даволі цьмяны. Да нядаўна лічылася, што горад заснавалі мазавецкія князі. Аднак нядаўна было заўважана, што ў гербе горада на рацэ Лівец знаходзяцца элементы герба Гедзімінавічаў, а значыць, што горад заснавалі вялікія князі літоўскія. У *Энцыклапедыі Вялікага Княства Літоўскага*, у артыкуле пра магдэбургскае права, згадкі пра Венграў не прыводзіцца, хаця там ёсць там дата прысваення гарадскіх правоў суседняй Медзне — 1531 год...

І для іншых мясцовасцей Падляшша: Бельск (1430), Сураж (1440), Браньск (1493), Драгічын 1498), Мельнік (1501), Высока-Мазавецк (1503), Лосічы (1505), Боцькі (1509), Мілейчычы (1516), Нарва (1529), Сямятычы (1542), Ялоўка (1545), Аўгустаў (1557), Крынкі (1569), Орля (1634), Сувалкі (1720)...

І яшчэ аб выставе пра венграўскую шматкультурнасць. Яна была зладжана па ініцыятыве сенатар ад Права і справядлівасці Марыі Коц, у папярэднім скліканні віцэ-маршалак Сената, а раней дырэктаркі Венграўскага, а пасля Саколаўскага асяродкаў культуры. Па яе ж ініцыятыве ў Саколаве-Падляшскім быў арганізаваны Музей Вялікага літоўскага гасцінца, пра які таксама было раней у «Ніве»...

Тэкст і фота **Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

ISSN 0546-1960